PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 34 (2049) ГОД XL БЕЛАСТОК 20 ЖНІЎНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Рэчка Нараўка каля Нараўкі.* **Фота А. Вярбіцкага**

*Бэата Капій*

## Белавежа ў паэзіі Алеся Барскага

Алесь Барскі — гэта паэт, як мне здаецца, добра вядомы чытачам „Ніны". Ужо ў 1962 годзе, пасля выдання першага зборніка „Белавежскія матывы", заіснаваў у свядомасці чытачоў як паэт беларускі. Потым друкаваліся чарговыя зборнікі паэта — „Жнівень слоў" (1968), „Мой бераг" (1975), „Блізкасць далёкага" (1983) і „Лірычны пульс" (1987). Беручы пад увагу шматгадовае ўжо існаванне Барскага на літаратурнай сцэне, я ўпэўнена, што амаль кожны, хто ведае гэту творчасць, мае свае ўласныя адносіны да яе. Тут аднак, у гэтай працы не будзем займацца крытыкай, але голас аддамо самім творам. Будзем займацца матывам Белавежы ў паэзіі Барскага, спосабамі канкрэтызацыі гэтага матыву і яго абсягам.

Паддаючы цэласнай аналізе творы Барскага заўважаем, што спакойнай, гарманічнай рыфмай пачынаецца ў ягонай паэзіі аповесць аб прыродзе і чалавеку ў яе. Паступова зарысоўваецца краявіды, адкрываецца вялікая, неабмежаваная прастора, уваходзяць „на сцэну", у творы дрэвы, звяры і птушкі. Вершы Барскага пра прыроду з'яўляюцца па сутнасці хронікаю паэтычнага знаёмства яе ісціны. Гэта неаднакратна спроба паставіць знак роўнасці паміж перажываннямі лірычнага героя, які знаёміцца з прыродай, паглыбляе яе сэнс, і незалежнай ад гэтага героя „дзейнасцю" прыроды, чарговай рэалізацыяй паасобных яе элементаў, водару, фарбы, інтэнсіўнасці. Прырода, натура ў Барскага мае акрэсленыя імёны. Ейныя рэаліі паходзяць з акрэсленага месца на зямлі. Гэта прырода белавежская, прынарвянская, прырода роднай вёскі паэта — Бандароў — узбуджаючая паэтычную ўяву асаблівымі формамі.

Барскі бачыць у прыродзе тое, што блізкае чалавеку і паказвае яе праз прызму чалавечай любові, узаемасувязі і братэрства. У гэтых вершах бачым моцную ўзаемазалежнасць прыроды і чалавека.

Прыгажосць прыроды, родных краявідаў — гэта для паэта крыніца паэтычнага натхнення, крыніца жыццёвых сіл, радасці, спакою. Ад гарадской мітусні, ад смутку, ад штодзённых клопатаў ён уцякае на ўлонне прыроды, на ўлонне Белавежскай пушчы, якой моц лагодзіць унутраныя чалавечыя драмы і рэгенеруе сілы — і фізічныя, і душэўныя.

Пішучы аб прыродзе, Барскі насычае свае творы шматлікікі вобразамі, часта паасобным элементам прыроды прыпісвае ён антрапамарфічныя якасці, дзякуючы чаму „створаны" ім свет становіцца яшчэ бліжэйшы чалавеку, больш пластычны і ў высокай ступені зразумелы.

Здараецца таксама ў Барскага, што вобразы прыроды вяртаюцца ў алірычнай форме. Заўважаем пры гэтым, што матыў сну рэалізуецца двума спосабамі. Гэта або звычайны, начны сон, або г.зв. „сон на яве" — мары героя, які фізічна толькі прысутны „тут і цяпер", у рэальнай рэчаіснасці, а ягоная свядомасць перанесена там, дзе часава-прасторавыя рэаліі выразна аслаблены. Гэты сон пераносіць героя ў мінуўшчыну, да ўспамінаў, якія выпаўняюцца вобразамі выклікаными тугою, якая прыцягвае зрок і пачуцці далей — да роднай прыроды.

Чытаючы творы Барскага, як напрыклад, „Пейзажы, краявіды белавежскія", „Не шукай на ўзбярэжжы", „Яно зляжылася на тое, што ёсць цэласць" ці „Нарва" заўважаем, што прырода з'яўляецца прадметам абагатварэння паэта. Гэтая прырода, карыстаючыся вялікімі якасцямі, уздзейнічае на чалавека, вызваляючы ў ім мастацкія перажыванні, пачуццё гарманічнага ладу і бязмежнай прыгажосці. Адзінка, як часцінка прыроды, адорана рэфлексіўнай свядомасцю захапляецца натурай, а праз яе пазнае сябе, знаходзіць уласнае для сябе месца, да якога вяртаецца:

*Пейзажы,*
*Краявіды белавежскія,*
*Сонцы*
*У трасніках наднарвянскіх*
*І цішыня,*
*Такая галасістая,*
*Што будзіць*
*Мае сны каменныя,*
*Мае Афіны тут —*
*Назваў іх Бандарамі*
*Шукаю месца я*
*Для прыстані сваёй...*

Гэта якраз гэтае месца, гэты пейзаж адмыслова блізкі паэту. Ён мае да яго асабістыя, сяброўскія, сыноўскія адносіны. У шматлікіх творах, уздымаючых матыў белавежскага лесу: „Лясы — душа маёй краіны", „Там дзесьці трывогі", „О лес, ты брат", „Глядзі на лес", „Белавежа — зялёны наркотык" ці „Эстафета" заўважаем таксама, што паэт паказвае лес у шырэйшым вымярэнні, а часта прыдае яму сімвалічнае значэнне. Лес — сведка гісторыі — спалучае ў сябе мінуўшчыну, сучаснасць і будучыню. Гэта прадвечная, калыска чалавецтва, дзе можна знайсці сляды сваіх продкаў. Гэта абшар згоды, супольнасці, душэўная спажыва для змучаных душ. Лес адораны ў Барскага жыццём, вольнасцю, як зрэшты цэлая натура, якая развіваецца разумна і мае сваю мову і душу. Гэтая арганістычная канцэпцыя прыроды узвышае яе боскасць, іманентнасць абсалюту ў натуры, з'яўляецца выразам пантэізму:

*Белавежа — зялёны наркотык,*
*Без цябе не магу, не ўмею,*
*Каляровыя сны — сонца дотык,*
*Як паляна — агромнасць надзеі.*
*І пайсці, і забыць, заблудзіцца,*

Працяг на стар. 8

*Васіль Кургановіч*

## АДЗІН НАРОД, АДЗІН „ФОЛЬК"

Вынікі рэферэндуму і выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі ствараюць знакамітую нагоду паставіць пытанне, чым беларусы Беласточчыны розняцца ад сваіх суродзічаў у рэспубліцы. Напэўна тым, што першыя гавораць найчасцей на польскай, а другія на расейскай мове. Але гэты фактар не вынікае з псіхічных схільнасцей беларусаў да вывучання чужых моў, а толькі з браку пашаны для свае мовы. І тут няма ніякай розніцы паміж беларусамі, якія жывуць па абодвух баках керзанскай мяжы. Адны і другія стараюцца авалодаць і прыняць за сваю мову ўрадніцка-паліцэйскай наменклатуры, пануючай на акрэсленай тэрыторыі. У сацыялогіі называецца гэта канфармізмам, але і гэты тэрмін не надта пасуе да нашага грамадства. Канфарміст заўсёды кіруецца нейкім уласным, эгаістычным інтарэсам, але які ёсць інтарэс у тым, калі чалавек адракаецца ад духоўнай спадчыны сваіх продкаў?

Уся навука пакуль што замала падрыхтаваная, каб акрэсліць феномен нашай нацыі.

На Беласточчыне — як часта можна пачуць і прачытаць — пражывае 200—300 тысяч беларусаў, але першыя поўнасцю дэмакратычныя выбары ў польскі парламент у 1991 г. паказалі, што для беларускай справы гатовых ёсць паставіць прынамсі палку на выбарчым бюлетэне, нічога прытым не рызыкуючы, (аж!) 4,5 тысячы мясцовых патрыётаў. Рашучая большасць галасавала на ўсялякіх дзівакоў, абы толькі не на сваіх. У 1993 годзе было трошку лепей, але таксама відаць было агульнанароднае імкненне ўцячы ў нябыт. Выбраць сваіх паслоў — гэта абазначала б, што яны ад імя беларускага грамадства будуць дамагацца дарог, тэлефонаў, школ, водаправодаў — усяго таго, што ў нас дзесяткамі гадоў было так страшэнна занядбанае. Мала хто ўсведамляе сабе, што яшчэ ў сямідзесятых гадах селянін з-пад Гайнаўкі, які араў зямлю V ці VI класаў, плаціў такія самыя падаткі, як яго калегі з ваколіц Монькаў за II ці III клас. Але навошта нам пра гэта ведаць. Памятаем толькі, што „за Герка" было добра, нават цудоўна. Дзеці пайшлі ў гарады, атрымалі школу, працу, кватэру з ваннай. Часам людзі і праслязяцца, калі ўспамінаюць тую эпоху сацыялістычнага рамантызму. Як тады не галасаваць на людзей, якія атаясамліваюцца з палітычным парадкам, які даваў бестурботнае шчаслівае жыццё. А тое, што трэба было тое жыццё правесці ў клетцы, не было так і важнае. Да клеткі ўжо так прывыклі, што яе проста не заўважалі, а і поўная міска была аднак гарантаваная дзяржаўнымі законамі.

Калі тут, зусім нечакана, з'явілася дэмакратыя, а з ёю выбары, на беларускія выбарчыя спіскі — у сярэднім — галасавала прыблізна 20 працэнтаў беластоцкіх беларусаў. Дакладна столькі ж беларусаў галасавала за выхад з клеткі, за чалавечае жыццё ў сваёй дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь у маі 1995 года. Што за незвычайная еднасць народа, якога частка, хаця жыве ў іншай дзяржаве, паводзіць сябе амаль так сама, як яго асноўная маса.

Працяг на стар. 4

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*В послевоенные годы мы восстанавливали разрушенное хозяйство, работали, не жалея сил и здоровья, и создали одно из могущественнейших государств мира. Моя маленькая Беларусь стала центром технического прогресса и достигла небывалых успехов в развитии науки, культуры, искуства, благодаря своему талантливому и трудолюбивому народу.*

*Как жили мы тогда, простые люди, те, кто поднял страну из руин и превратил ее в мировую державу? Жили по совести, ибо совесть тогда не была абстрактным понятием, а честность и порядочность были необходимыми качествами человека того времени. Жили с верой и надеждой на лучшее будущее.*

*Но грянула перестройка. Стоящие у руля к тому времени прогнившей и коррумпированной системы сумели в короткий срок „прихватизировать” наше народное богатство. Скажите, где, в какой стране, при каком строе могли так подло поступить с человеком труда. Обмануть, ограбить и пустить по миру. Нас по-прежнему продолжают грабить и обманывать.*

*Народная газета, н-р 140*

Усяму вінаватая перастройка, якая прывяла да развалу краіну, дзе шчасце, свабода і дабрабыт спадарожнічалі жыццю кожнага савецкага чалавека. Які ж злачынец той Гарбачоў!

* * *

*Падчас візыту ў Менску віцэ-прэзыдэнта Ірана Хасана Хабібі госьць не хацеў бачыць ніякіх жанчын. Нават на прэс-канфэрэнцыі нашага ісламскага брата ніводная жанчына-журналістка не атрымала акрэдытацыі ад прэс-службы Кабінэта Міністраў.*

*Тое, што адбылося, немагчымае не толькі ў любой краіне, дзе існуе павага да правоў чалавека. Гэта нахабная і бессаромная аплявуха ўсяму беларускаму грамадзтву. Хаця наш прэзыдэнт (па ягоным уласным прызнаньні) ніякава адчувае сябе ў царкве, тым не менш мусульманства ён, здаецца, яшчэ не прымаў. Сакрэт такой пачварнай павагі да ісламскіх канонаў у тым, што Хабібі мае тоўсты кашалёк і жаданьне купіць зброю. За грошы беларускае кіраўніцтва можа прадаць не толькі ўласны гонар, але гонар народа. А тое, што ў нашай краіне не паважаюць жанчын, вядома даўно — бо ўзор сямейных адносін дае кіраўнік дзяржавы.*

*Свабода, н-р 29*

Калі прынялі мусульманскі сцяг, чаму ж тады не паважаць мусульманскую традыцыю. Мусульманства — гэта не толькі забарона спажываць спіртныя напіткі, але і перспектыва гарэмаў для дэмакратычна выбраных шэйхаў.

* * *

*Прэзідэнт Лукашэнка хоча абаперціся на праваслаўе,* — заяўляе

*Звязда, н-р 131*

* * *

*Z jednostki wojskowej w Warszawie trzej faceci ukradli 80 karabinów maszynowych i pół miliona sztuk amunicji. Jak ukradli? Weszli, zabrali i wyszli. Gdy tylko wyszli, prezydencki resort obrony natychmiast wystawił silne warty, aby pilnowały śladów. Śladów, rzecz jasna, ani śladu. Ministerstwo Obrony bardzo prosi tych trzech, co ukradli karabiny z jednostki wojskowej w stołecznym mieście, żeby dali się złapać i powiedzieli, jak weszli, bo wtedy my byśmy tak samo weszli do NATO z całym naszym wojskiem, z którego co dzień ucieka nam, cholera, jakiś rekrut i gania po Ojczyźnie z karabinem. Ale niedługo wszystkie karabiny naszemu wojsku ukradną i będzie święty spokój,* — піша Станіслаў Тым.

*Wprost, nr 31*

* * *

*W Chinach więźniowie są głównym źródłem narządów do transplantacji. Proceder ten uprawia się zazwyczaj bez zgody więźniów. Wielu więźniów było i nadal jest skazywanych bezpodstawnie na karę śmierci, by pobierać od nich organy. W egzekucjach uczestniczą lekarze. Czasami egzekucje wykonywane były tak, by więźniowie byli jeszcze żywi w chwili pobierania od nich organów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 175*

* * *

*Przetoczyła się wielka debata polityczna na temat zarostu pod prezydenckim nosem. Czy można mieć wąsy, a jednocześnie ich nie mieć — zastanawiano się w najwyższych kręgach politycznych. Wypowiedziały się na ten temat największe autorytety: rzecznik Spaliński, sekretarz stanu Zakrzewski, parlamentarzysta Geremek. Najciekawiej wypowiedział się marszałek Sejmu Józef Zych. Według niego Lech Wałęsa posiada wąsy w trakcie odrostu.*

*Gazeta Współczesna, nr 140*

Гэта сапраўды немалая палітычная праблема. Яшчэ не ўсе аўтарытэты выказаліся ў гэтай справе.

* * *

*Kradzieże samochodów stały się w Polsce sprawą polityczną o trudnych do przewidzenia międzynarodowych reperkusjach. Jednego tylko dnia — 4 lipca — nieznani sprawcy, nie dbając zupełnie o polską rację stanu, skradli trzy dyplomatyczne pojazdy. Rano — audi V-6 — Jurija Kaszlewa, ambasadora Rosji, w południe — forda spod ambasady Litwy, wieczorem zaś w Aninie — hondę japońskiego dyplomaty. Połowę warszawskiej policji postawiono na nogi, w MSZ zaś poświęcono sprawie specjalną naradę. Kilka dni wcześniej przy placu prezydenckim obrabowano delegację rządu Birmy, zaś kilka dni później skradziono samochód szefowi policji berlińskiej. Najciekawszy przypadek zdarzył się jednak w Gdańsku, gdzie przebywała grupa policjantów niemieckich uczących polskich kolegów walki z gangami samochodowymi. Niemcy zaparkowali swego mercedesa obok komendy. Po 15 minutach auto zniknęło.*

*Polityka, nr 30*

* * *

*Kiedy w 1992 r. w Sankt Petersburgu i Moskwie przeprowadzono ankietę wśród uczennic szkół średnich, 58 proc. z nich uznało zawód prostytutki za najatrakcyjniejsze zajęcie na świecie*

*Wprost, nr 33*

Што за рамантычнае пакаленне вырасла ў постсавецкай краіне.

## З мінулага тыдня

**Віцэ-маршалак Сейма Владзімеж Цімашэвіч** падчас прэс-канферэнцыі ў Беластоку заявіў, што пасол РП у Маскве **Станіслаў Цёсак** выказаўся за прадаўжэнне прэзідэнцкіх паўнамоцтваў **Леха Валэнсы**. На яго думку, пасол разаслаў многім палітыкам лісты з прапановай адтэрмінаваць прэзідэнцкія выбары на два гады. Віцэ-маршалак сказаў, што яму цяжка дакладна назваць круг адрасатаў ліста, але самую задуму адтэрміноўкі прэзідэнцкіх выбараў назваў ён „прыватнай ініцыятывай пана Цёска” і акрэсліў яе „кур’ёзнай”.

**Прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Кшыштоф Слівіньскі** заявіў, што няма ніякай інфармацыі наконт ініцыятывы пасла **Станіслава Цёска** аб адтэрміноўцы прэзідэнцкіх выбараў. Дадаў ён, што кожны пасол можа мець свае прыватныя палітычныя погляды і можа імі абменьвацца з сябрамі.

**Пасол Сейма Артур Смулка** заявіў, што акцыя збору подпісаў у падтрымку кандыдатуры **Леха Валэнсы** праводзілася ва ўсіх Надвіслянскіх часцях Міністэрства ўнутраных спраў і арганізавана была камандзірамі падраздзяленняў, што пярэчыць прынцыпу апалітычнасці арміі і парушае закон аб вайсковай прафесійнай службе. Высвятленнем справы займаецца Сеймавая камісія адміністрацыі і ўнутраных спраў.

Падчас пабыўкі ў Беластоку віцэ-маршалак Сейма **Владзімеж Цімашэвіч** сустрэўся з генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку **Міхаілам Слямнёвым**. У ходзе гутаркі былі закрануты пытанні жыллёвых умоў дыпламатычнага прадстаўніцтва і канфлікту вакол вяртання Праваслаўнай царкве манастырскіх збудаванняў у Супраслі.

**Першую беларускамоўную тэлеперадачу** не дадзена было паглядзець жыхарам Беластока і наваколля. Перадача выйшла ў эфір з перадатчыка ў Ласіцах і маглі яе прымаць толькі тэлегледачы з паўднёвай часткі Беласточчыны, гэта значыць з наваколля Сямяціч, Бельска і Гайнаўкі. Дырэкцыя тэлебачання абяцала чарговыя перадачы трансляваць з перадатычка ў Крыніцах каля Беластока. У сувязі з тым узнікае пытанне, як глядзець наступныя перадачы жыхарам Прыбужжа.

**Усе паслы Беласточчыны** дамовіліся перадаць прэзідыуму Сейма супольны праект пастановы аб стварэнні універсітэта ў Беластоку. Праект новага закона прадугледжвае пераўтварэнне Філіяла ВУ у самастойную вышэйшую навучальную ўстанову. Філіял ВУ існуе з 1968 г. і працуе ў ім 633 настаўнікі, у тым ліку 38 прафесараў. Вучыцца ў ім 10,5 тысячы моладзі. Апрача таго вучэльня вядзе аддзельныя педагагічныя заняткі для палякаў у Беларусі.

**У дзень Супрасльскай Іконы Божай Маці**, які адзначаецца 10 жніўня, у Супрасль прыйшлі групы пілігрымаў з Беластока, Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і Саколкі. Шэсце папаўнялася па дарозе новымі паломнікамі з паасобных прыходаў.

**Беласточчыну насяляе 700 100** чалавек, што складае 1,9% ад агульнай кольскасці насельніцтва краіны (38 580 600 асоб). На Беласточчыне наглядаецца пабольшаны наплыў вясковага насельніцтва ў гарады. Цяпер у гарадах пражывае 63,1% жыхароў ваяводства. Затое шчыльнасць насельніцтва меншая, чым у астатніх ваяводствах краіны, і складае адпаведна 70 і 123 чалавекі на 1 квадратны кіламетр.

**Грамадскі камітэт аховы асяроддзя ў Чаромсе** праводзіць збор грошай у фонд паляпшэння санітарнага стану гміны ад шафёраў аўтамабіляў, якія перасякаюць польска-беларускую мяжу ў Полаўцах. За два гады назбіралася ўжо амаль 250 тысяч новых злотаў і будуць яны выкарыстаны пры пабудове ачышчальні сцёкаў у Чаромсе.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- > Да еднасці беларусаў Беласточчыны заклікае Юры Баена.
- > Разважанні пра вайну і рэлігію Васіля Петручука.
- > Як адпачываюць беластоцкія мяшчане.
- > Ці быў на Беласточчыне атаман Перагуд?



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Чорныя хмары над МЗС

Распаўсюджаныя ў апошні час чуткі аб магчымых пераменах у кіраўніцтве Міністэрства замежных спраў развеяў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Пасля пашыранага пасяджэння калегіі знешнепалітычнага ведамства ён сказаў, што крытыкуючы Уладзіміра Сянько і кіраўніцтва міністэрства, у цэлым ён ускладае вялікія надзеі. На думку прэзідэнта цяперашні дыпламатычны корпус рэспублікі даволі таленавіты і кампетэнтны. Няма ніякіх падстаў да змены кіраўніцтва гэтага ведамства, падкрэсліў Лукашэнка. У той жа час было сказана, што ў міністэрстве ёсць шмат нявырашаных праблем. У бліжэйшы час пройдзе пасяджэнне Кабінета Міністраў, на якім будзе дадзена вельмі сур’ёзная ацэнка тым кіраўнікам, якія не рэагавалі на прапановы МЗС і паслоў рэспублікі па ўстанаўленню выгадных сувязяў з шэрагам замежных краін.

### Міністэрскі візіт

Намеснік міністра культуры і мастацтва Польшчы Тадэуш Поляк з 28 ліпеня па 1 жніўня знаходзіўся ў Беларусі з рабочым візітам. У час свайго знаходжання польскі госць наведаў Наваградак, Нясвіж, Крэву і Воўчын. На сустрэчах з афіцыйнымі асобамі Міністэрства культуры і друку, а таксама з прадстаўнікамі мясцовых органаў улады абмяркоўваўся праект аказання польскім бокам фінансавай і метадычнай дапамогі ў кансервацыі замкаў Наваградка, Крэвы і касцёла ў Воўчыне.

### Льготы для Сораса

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб некаторых пытаннях падаткаабкладання грашовых сродкаў і маёмасці, якія атрымліваюць грамадзяне і юрыдычныя асобы Рэспублікі Беларусь ад Міжнароднага навуковага фонду і Беларускага фонду Сораса. Згодна з ёй, вышэйназваныя грамадзяне і юрыдычныя асобы вызваляюцца ад аплаты падаткаў, збораў і іншых абавязковых плацяжоў у бюджэт і пазабюджэтныя фонды, створаныя па рашэнні Вярхоўнага Савета.

### Размежаванне з Украінай

У Гомелі адбылася сустрэча рабочых груп украінска-беларускай камісіі па пытаннях дэлімітацыі дзяржаўнай мяжы паміж дзвюма краінамі. На ёй было праведзена канчатковае ўзгадненне формы і тэксту пратакола апісання праходжання мяжы.

### Навуковае супрацоўніцтва

Дагавор аб сумесных навуковых даследаваннях падпісаны паміж калектывам Гродзенскага аддзела рэсурсаўтварэння Акадэміі навук РБ і Політэхнічным інстытутам у Беластоку. Вучоныя двух навуковых цэнтраў вызначылі напрамкі сумеснай дзейнасці. Неўзабаве пачнуцца даследаванні фізічных паводзін суставаў чалавека з мэтай стварэння штучных заменнікаў. У песпектыве — сумесная работа звязаная з новымі эразійнаўстойлівымі матэрыяламі. Гэта не першая навуковая здзелка адзінага ў рэспубліцы навуковага цэнтра са знешнім светам. Ужо заключаны кантракт на распрацоўкі з Парыжскім інстытутам матэрыялаў і канструкцыі, а таксама з Паўднёвакарэйскім інстытутам навукі і тэхнікі.

### Мытная сістэма

Спецыялісты Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі разам з амерыканскімі калегамі пачалі апрацоўку новай сістэмы экспартнага кантролю. Урадам ЗША выдзелена 16,5 млн. дол. Новая сістэма экспартанага кантролю дазволіць больш эфектыўна ажыццяўляць кантроль за ўвозам у рэспубліку і вывазам з яе тавараў, якія ўяўляюць істотную небяспеку і для нашай краіны і для Еўропы ў цэлым, такіх як наркотыкі, радыеактыўныя матэрыялы і іншыя.

### Юбілей геолагаў

Семдзесят гадоў таму пачаліся першыя геолагаразведачныя работы ў рэспубліцы. За мінулыя гады падраздзяленнямі аб’яднання „Белгеалогія” разведаны прамысловыя запасы нафты, бурага вугалю, калійных і каменных соляў, розных будаўнічых матэрыялаў, прэсных і мінеральных вод. Абнадзейваюць і работы па пошуку золата. Пад Заслаўем, напрыклад, здабыты першы кілаграм беларускага золата. Усяго ў рэспубліцы адкрыта 20 пластоў з агульным прагнозам запасаў больш як 50 тон гэтага каштоўнага металу.

### Поспех баскетбалістак

У польскім горадзе Уладзіслававе праходзіў чэмпіянат Еўропы па баскетболу сярод кадэтак. У спаборніцтвах удзельнічалі дванаццаць каманд у дзвюх групах. Зборная Беларусі выступала ў групе А разам з баскетбалісткамі Славакіі, Італіі, Польшчы, Балгарыі і Бельгіі. Дарэчы беларускія баскетбалісткі стартавалі ўдала. Яны атрымалі дзве перамогі запар, выйграўшы ў зборнай Славакіі 76:72 і Італіі — 83:72. У першым матчы самымі выніковымі ў камандзе былі Жана Гарадзецкая (19 ачкоў) і Вольга Падабед (18 ачкоў). У другім матчы вызначыліся мянчанкі — Святлана Вольная (на рахунку якой 19 ачкоў) і зноў Вольга Падабед (16 ачкоў).

# Сідранская дэмаграфія

Гміна Сідра займае плошчу ў 17 396 гектараў. Знаходзіцца яна па-суседску з Кузніцкай, Навадворскай, Дуброўскай, Янаўскай і Сакольскай гмінамі. Тут 40 населеных пунктаў.

— У гміне пражывае, — паінфармавала кіраўнічка ЗАГСа Тэрэса Бярнацкая, — 4 663 чалавекі, у тым ліку 2 398 мужчын і 2 265 жанчын. Шчыльнасць насельніцтва — 26 асоб на 1 квадратны кіламетр (на вёсках у нашай краіне больш-менш 50 чалавек на 1 кв. км).

Гміна мае раздробленую пасяленчую сетку. Тут пераважаюць невялікія вёскі з 99—199 жыхарамі. Толькі Сідра налічвае 750 чалавек (18% усяго насельніцтва гміны). Іншыя большыя вёскі гэта: Рацэва, Макаўляны, Яцаўляны, Ялоўка і Юрашы.

У 1950—1994 гадах колькасць насельніцтва гміны Сідра зменшылася з 6 540 да 4 663 чалавек, г.зн. на амаль адну трэціну (на вёсках у Беластоцкім ваяводстве на 25%). Многа маладых людзей з вёсак выехала на пастаяннае жыхарства ў гарады ў 70—80-тыя гады. Зараз пастаянна змяншаецца натуральны прырост і не можа быць інакш, калі на 100 мужчын прыпадае 67 жанчын ва ўзросце 15—29 гадоў. Замала ёсць таксама жанчын ва ўзросце 35—39 гадоў. Кавалераў ва ўзросце 20—29 гадоў ёсць у тры разы больш, чым дзяўчат!

У 1994 годзе нарадзілася 56 дзяцей і ў першым паўгоддзі бягучага года — 23. У мінулым годзе пажанілася 21 пара, сёлета — усяго тры. Шмат людзей памірае: у 1994 годзе — 45 асоб і на працягу шасці месяцаў гэтага года — 29.

Якія імёны найчасцей даюць сваім новانароджаным дзецям іх бацькі? Будуць гэта перш-наперш Іаанна, Анэта, Анна, Эдыта, Пауліна, Эва і Юстына (для дзяўчынак) ды Рыгор, Матэвуш, Лукаш, Тамаш, Мар'юш і Пётр (для хлопчыкаў).

Найстарэйшымі жыхарамі Сідранскай гміны з'яўляюцца Анна Бацёха (яна нарадзілася ў палове 1896 года) і Тэкля Чыкер (нар. 1900 г.) з Сідэркі, Аляксандр Чыкер (нар. 1900 г.) з вёскі Шастакі, Серафіма Баркоўская (нар. 1902 г.) і Анна Галубоўская (нар. 1898 г.) з Сідры, Сцяпан Ліс (нар. 1895 г.) з Бернікаў, Мар'я Гурын (нар. 1892 г.) са Ставарова ды Мар'я Кніга (нар. 1900 г.) з Залесся.

Варта дадаць, што некаторыя — больш кручаныя, вёрткія ці вяртлявыя — кавалеры шукаюць сабе дзяўчат сярод жыхарак бліжэйшых суседніх дзяржаў. З расейскімі дзяўчатамі пажаніліся і шчасліва жывуць па адным маладым жыхары з Яцаўлян і Хвашчэва. Такі знак часу...

**Янка Целушэцкі**

Гмінныя навіны

## КУЗНІЦА-БЕЛАСТОЦКАЯ

### Краны ў задворках

У Кузніцкай гміне ваду з крана маюць жыхары звыш 500-асабовай Кузніцы ды вёскі Кусцінцы. Большменш вада чыстая як крышталь плыве да трацінь усіх тамашніх дамоў. Неўзабаве такую выгоду будуць мець жыхары Валынцаў, Кавалёў і Сачкоўцаў.

Сёлета ў кастрычніку па вуліцы Сідранскай у Кузніцы здадуць у карыстанне ачышчальню сцёкаў разам з санітарнай каналізацыяй. Пабудавалі яе рабочыя „Гідрацэнтра" ў Варшаве.

Зараз у чацвёртай частцы ўсіх дамоў ёсць купальныя пакойчыкі з ваннай. Калі пабудуюць больш водаправодаў ды ачышчальняў вадкіх нечыстотаў, тады павялічыцца колькасць ванных пакояў.

### Шляхі і дарогі

Найлепшай дарогай у Кузніцкай гміне з'яўляецца міжнародны шлях н-р 18 — з Саколкі ў Кузніцу-Беластоцкую. Затым даволі добрая дарога вядзе з Кузніцы ў Малявічы цераз Навадзель і Клімоўку.

Зараз існуе пільная патрэба, каб пакласці асфальт на жвіровай дарозе, якая спалучае Сідру з Кузніцай. Затым прыдалося б аднаўленне двух адрэзкаў даволі рухлівых дарог: з Сідры ў Паплаўцы цераз Залессе і Стараўляны ды са Стараўлян у Кругляны цераз Волкушы і Чупрынава.

Неабходны таксама рамонты сельскагаспадарчых дарог у наваколлі вёсак Ставарова і Агароднікі.

**Янка Целушэцкі**

# З граблямі ў грыбы

Грыбны сезон у разгары. У гэтым годзе нельга наракаць на ўраджай, бо спрыяюць яму багатыя ападкі. У лясах з'явіліся ўжо баравікі, пад дастаткам таксама і лісічак. Грыбнікоў у лесе таксама багата, бо адносна высокая цана лісічак, заахвочвае людзей збіраць грыбы дзеля заробку. У канцы чэрвеня лісічкі плаціліся па 18,5 зл. за кілаграм, а ў другой дэкадзе ліпеня цана ўпала нават да 4—5 зл. Гэта было хіба найбольшае хістанне цаны ў „галавакружнай кар'еры" гэтага грыба ў Польшчы.

А пачалася мая прыгода з грыбамі ў 1989 г., калі Польшча перайшла на рыначную гаспадарку. Тады ў час канікул я сабраў 53 кг лісічак і зарабіў трохмесячную настаўніцкую зарплату. Для мяне былі гэта значныя грошы, якія ж надта спатрэбіліся на абсталяванне новай кватэры. Хадзіў я ў грыбы амаль кожны дзень, седзячы ў цесцяў на дачы. Збіраць грыбы навучыла мяне ў дзяцінстве маці. Тады здабыць грошы было вельмі цяжка. Маці збірала лісічкі і насіла іх прадаваць у кааператыў „Ляс". Быў, аднак, гэта зусім іншы час. Грыбы прымаў толькі адзін пункт скупкі ў Вітаве (жыў я тады ў Дубічах-Царкоўных). Прымалі выключна буйныя, непакрышаныя грыбы без карэння. Цана кілаграма лісічак раўнялася вартасці адной-двух буханак хлеба. Прыдаваліся і такія грошы для падмацавання хатняга бюджэту.

Час змяніўся, але людзям усё ж грошы патрэбны: а то на будову дома, то на ласункі для дзетак, то на пляшку, або на іншыя патрэбы. І таму грыбнікоў па лясах не меншае. Збіраюць грыбы перш за ўсё мясцовыя ў „сваім" лесе, дзе знаёмы кожны кусцік. Прыязджаюць таксама грыбнікі з навакольных гарадоў. Людзі падзарабляюць такім чынам да мізэрных пенсій ці дапамогі для беспрацоўных. Але сярод грыбнікоў трапляюцца і такія „рацыяналізатары", якія ў лес прыязджаюць з граблямі. Напрыклад, мяне вельмі ўзбударажыла адна панечка, якая поўзала на каленях і разграбала падсцілку дзіцячымі грабелькамі. На маё здзіўленне і абурэнне жанчына адказала: „А ці вы ведаеце, што без гэтых грабелек я гэтых грыбоў у моху ніколі б не знайшла?" Ходзяць таксама чуткі, што адна жанчына з Тафілаўцаў таксама ходзіць у грыбы з трохі большымі адмысловымі грабелькамі. Нельга так! Што станецца з грыбніцай?! Дзе ж наша экалагічная свядомасць?!

Яшчэ некалькі гадоў таму квітнеў гандаль лісічкамі з усходу, хаця перавозіць грыбы цераз граніцу не дазвалялася. Але людзі прыдумоўвалі розныя фокусы, каб перапраўляць лісічкі цераз граніцу. З гэтага занятку можна было атрымаць нядрэнныя грошы. Часамі грыбным кантрабандыстам не шанцавала і на абочыне дарогі ля гранічнага перахода можна было пабачыць гурбы сапрэлых грыбоў. Схаваныя пад капотамі аўтамашын лісічкі не вытрымоўвалі высокай тэмпературы і чакання на граніцы, ды псаваліся. А ў нас паявіліся нават спецыяльныя скупкі „рускіх" лісічак, за якія плацілі меншую цану. Цяпер сітуацыя стала больш нармальнай, а цэны ў Беларусі і Польшчы ўсталяваліся на падобным узроўні. Кантрабанда ўжо не аплачваецца.

На канец некалькі пажаданняў. Грыбнікам зычу поўных кашолак, немцам, якія імпартуюць нашыя грыбы — прыемнага апетыту, а леснікам — дарожных знакаў з перакрэсленымі граблямі.

**Славамір Кулік**

# У Бельску

Калісь на старонках „Нівы" пісалася пра занядбаны рыначак пры вуліцы Крынічнай. Цяпер, у рамках прыватызацыі, ГС зрокся гэтага кавалка зямлі і перадаў управе горада, а тая аб'явіла аўкцыён і такім чынам адміністратарам рыначка стала суполка, якую вядзе Славамір Бабрыцкі. Цяпер усюды чысціня. У прыбіральні еўрапейскі стандарт: ёсць цёплая і халодная вада, папера. Вялікая плошча агароджана: на ёй бясплатная стаянка для легкавушак. Пры плоце кветкі пасаджаны: духмяны гарошак. Там, дзе калісь немагчыма было прайсці сухою нагою, цяпер ляжаць бетонныя пліты. З рэпрадуктараў плывуць песні на розных мовах бо і рынак „міжнародны": чуваць тут не толькі ўсходнееўрапейскія мовы, але нават англійскую можна пачуць. Як многа на лепшае змянілася ў нашым Бельску!

* * *

Калі прыехаў у Бельск, далажылі мне, што зрэзалі вялікую ліпу пры вуліцы Дубічы 69. Як я даведаўся, ліпа была здаровая, мела 18 метраў вышыні і 2 метры ў абхват. Не разумею, як улады Бельска далі дазвол на высечку такога дрэва. Як так далей пойдзе, дык не астанецца ніводнага дрэва ў Бельску-Падляшскім.

Будынак, дзе была „Цэпелія", купіў нейкі гаспадар і выразаў у агародзе дзве ліпы, кожная дыяметрам у 60 см. На пяньках, вышынёю ў 60 см, паставіў гаршкі з кветкамі і думае, што ніхто гэтага не заўважыць. Я чуў, што дазволу на гэтую высечку не было. Навакольным жыхарам баліць, што так паступіў новы гаспадар. Яшчэ, пры такім самавольстве, дык і помнік прыроды, вяз, які я з інжынерам Рудкоўскім выратавалі 5 гадоў таму, зрэжа.

**Андрэй Гаўрылюк**

Фота Арсеня Артысевіча

# Раслíннасць Белавежы без таямніц

1 017 відаў сасудзістых раслін можна зараз сустрэць у Белавежскай пушчы (па абодвух баках дзяржаўнай граніцы). Весткі пра 77 іншых відаў, аб якіх успамінаюць некаторыя аўтары, не пацвердзіліся (мабыць, паасобныя віды былі дрэнна распазнаны). У сваю чаргу 10 відаў у белавежскіх нетрах ужо прапала, затое 11 новых паявілася ў суседстве пушчы, на тэрыторыі горада Гайнаўка.

Вышэйпрыведзеныя даныя — гэта рэзюме апошняй працы праф. Аляксандра У. Сакалоўскага з Лабараторыі натуральных лясоў Інстытута даследавання лесаводства ў Белавежы. Кніжка выйшла на польскай мове пад загалоўкам „Flora roślin naczyniowych Puszczy Białowieskiej". Выдаў яе Белавежскі нацыянальны парк тыражом усяго 500 экземпляраў.

Матэрыялы да свае працы прафесар А. Сакалоўскі накопліваў 30 гадоў. Яна з'яўляецца першай такой працай для польскай часткі Белавежскай пушчы. Флору беларускай часткі апрацавалі шмат гадоў раней В. А. Нікалаева і В. М. Зефіраў. Іх праца выйшла друкам у 1971 г. (аўтары называюць у ёй 889 відаў).

І яшчэ некалькі цікавінак! Першыя інфармацыі аб раслінах сустракаемых у Белавежскай пушчы змяшчаюцца ў кніжцы Жыліберта, выдадзенай у Вільні ў 1781 г. На агульны лік 1 017 відаў сцверджаных у пушчы, 54 віды выступаюць толькі ў беларускай частцы. 353 віды паявіліся ў пушчы ў выніку дзейнасці чалавека. 61 від ахопліваецца відавой аховай (на 212 відаў ахоўваемых ва ўсёй Польшчы). З іх 7 відаў унесены ў польскую чырвоную кніжку.

**Пётр Байко**

На нашых дарогах

## „Схаваны" чыгуначны пуць

Ужо шмат гадоў таму ад чыгуначнага вакзала „Нараўка" ў Плянце (не папраўляйце: так, ёсць вакзал Нараўка ў Плянце, хаця да Нараўкі будзе 3—4 кіламетры) да керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове пабудавалі пад'язны пуць. Прайшлі гады і на чыгуначным насыпе выраслі вялікія кусты ды ўсякага роду хмызняк. Суцэльная сцяна гэтага гушчару закрывае чыгуначны пуць на пераездах цераз яго між іншым ад асфальтаванай шашы з Ляўкова ў Нараўку ў лес (завуць яго Плянтаўскім) ды на сенажаці і пашы, якія знаходзяцца за лесам. У гэтым месцы, каб убачыць ці едзе поезд, трэба затрымацца аж... на чыгуначным пуці. Іншага выхаду — з-за гушчару паабапал пуці — няма. Дык як жа так?.. А вось так яно ўжо ёсць, але ў далейшым быць не павінна.

Дзеля таго, каб не дайшло да трагедыі — лёгка тут трапіць пад цягнік — неабходна выкарчаваць кусты на спомненым насыпе ды ў равах. Чым хутчэй, тым лепш. Адрасуем свой ліст да вас, чыгуначнікі.

**Жыхары Новага Ляўкова ды Янка Падарожнік**

## БРЫДКАЕ СЛОВА

У часы майго дзяцінства ў нашай вёсцы найбольш фігурыста брыдкасловіў адзін мужчына, якога звалі Даніла. Бывала, калі ён гнаў каровы, бегла за ім хмара дзяцей. І хаця падчас такой дарогі з пашы ў вёску існавала рэальная пагроза ў выглядзе доўгага і свісцяшчага біча, цікаўнасць перамагала. Рот у Данілы не зачыняўся. Выражэннем, якімі ён прыхарошваў звычайнае: „бы! куды пайшла!" напоўна было далёка да прыстойнасці. Аднак, сярод іх рэдка страчаліся словы, якія сёння адназначна лічацца вульгарнымі. Даўно ўжо няма Данілы ў жывых, зацерлася ў маёй памяці яго імправізаваная вусная творчасць. Памятаю толькі два нядобразычлівыя пажаданні, скіраваныя да непаслухмяных кароў: „каб ты па вадзе хадзіла і піць прасіла" і „каб табе жаба трыбухі выела".

Пра тое, што лаянка брыдкім матам была невядомая беларусам да вайны, расказваў аднойчы ў Вільні Лявон Луцкевіч. Прынеслі яе, шмат зрэшты з чым іншым, расейскія краснаармейцы. У Вільні перад вайной найбольш абразлівым словам дічылася „бальшавік". Калі хтосьці кагосьці так публічна назваў, лічы, ворагі на ўсё жыццё.

Нядаўна давялося пачуць мне новае слова, якім стараліся абразіць адзін аднаго. Недалёка майго балкона ў Бельску пачынаюцца гародчыкі. На адным з іх, пад раскідзістай яблыняй па цэлых днях мужчыны рэжуць у карты. Аж свіст ідзе ад узмахаў рук, а потым чуваць гучанне „плясь"! Раз гульцы нешта з сабою не паладзілі, ці то змахляваў хтосьці, а мо і пайшло пра зусім іншае. Досыць, што адзін з мужчын крыкнуў на другога:

— Ты, ты... ты такі сам як Буры!

— Я як Буры? А ты яшчэ горш Бурага! — быў адказ.

Слова „Буры" напэўна ў гэтым выпадку не азначала колеру.

**М.В.**

*Сакрат Яновіч*

# РАЗВАЖАННІ НА БЕЛАРУСКІХ МАТЫВАХ

Паняцце дзяржавы зводзіцца да асобнасці. Польшча, бо не Германія. Расея, бо не Кітай. Беларусь, бо не Расея... З гэтым крыху, як з гаспадаркаю сядзібаю: свой дом, уласная зямля, крэўная радзіна. Дзяржава — гэта наш, а не чыйсьці лёс. І не чужы хлеб.

Які гаспадар, праўда, такое і жыццё ў яго хаце. Беларусаў падазраюць у замілаванасці парабкаваць у кагосьці. Парабак — гэта такі, хто не выжыве без пана над сабою. Выгодна лізаць камусьці боты: адказнасці на грош няма, а накарміць дурня накорміць.

Ці Беларусь здольная на самастойнасць? Так і не. Так, калі глядзець на прыроду яе зямлі. Не, калі прыглядзецца да людзей на ёй. Народ, які вякамі ўзвычаены гнуць спіну перад чужакамі, забыўся пра смак свабоды. Варты пагарды і кпіны. Або і менш таго, бо не бароніцца, а яшчэ сам памагае пляваць на сябе.

Псіхалогія парабка такая, што ў раз'юшанасць спаліць свой двор, запора віламі панства ў палацы, пасля чаго кінецца ў роспач, як яму далей самому жыць. Бунты ў феадалізм адбываліся часта-густа, але не ад іх прапаў гэты грамадскі лад. Знішчожыў яго рахунак: з'яўленне індустрыяльнага капіталу, таварнай канкурэнцыі. Прыбытковасць ад паншчыннага мужыка аказалася мізэрнай у параўнанні з фабрыкамі. Мяшчанска-купецкі горад разбрыняў у прамыслова-пралетарскія гіганты, засмактаўшы спачатку маянткоўую інтэлігенцыю, а потым і лапатную вясковасць. Феадальную цывілізацыю поля і хлява змяніла з часам новая, горада і лесу. Зніклі паны і сялянскія ім ненавіснікі. Дзеля хлеба цяперашняму народу не трэба вёскі, даволі архіпелагу фермераў з машынамі, на сотнях гектараў кожны ў развітых краінах.

Пан і мужык, бы кат і ахвяра, абодва праваліліся ў магілу гісторыі. Першы раней, другі пазней. Якая розніца ў векавечнасці? Роўная нулю.

Таму беларусы як земляробская нацыя парадаксальна не вырадзілася — як бачна — дзякуючы... калгасам! Старасвецкае, па сутнасці феадальнае, разуменне эканомікі ў Савецкім Саюзе перакрэсліла яе дынаміку, утрымала патрэбу ў постпаншчыннай працы. Не выпадкова беларускую мову празвалі гарадскія балваны там калгаснай, а псеўдапрафесарскія ідыёты даказвалі племянны ў ёй прымітывізм. Прастытуткі імперыі!

Але беларушчына ўцалела, і гэта на сённяшні выратавальнае. Жыве ўсё ж; забойцы не паспелі. Не мела б гэта так капітальнае значэнне, аднак, калі б не датрымаліся да нашых дзён і элементы нацыянальнай дзяржаўнасці. Цалкам падрыхтаваная духоўная ліквідацыя Беларусі не адбылася. Цяпер паяданне яе імперыяй ужо немагчымае па прычыне адыходу ад простага высілку ў тэхніцызацыю. Для высокага прыкладу, адзін амерыканскі рабочы дае прадукцыі столькі, колькі пяць—дзесяць нашых. Анексіі тэрыторыяў у свеце перасталі аплачвацца. Наадварот, лішне шмат каштуюць. У Чачні ваюе Масква не за дадатковыя мільёны працоўных рук, але за нафту; чачэнцаў ахвотна выстралялі б, з палёгкай для бюджэту.

Не будзь тэхналагічнай, навуковa-тэхнічнай, рэвалюцыі ў палове дваццатага веку, надалей існавалі б каланіяльныя імперыі. Экстэнсіўная гаспадарка, які рост вытворчасці залежыць ад росту лічбы работнікаў.

Наглядаем нешта супярэчлівае на паверхоўны погляд: вызваленыя народы Афрыкі і Азіі вось масамі пруцца ў Нямеччыну, Англію і Францыю. Няўжо з любові да сваіх учарашніх акупантаў? Адных азіятаў колькі запынена на памежнай Свіслачы!

Гісторыя працы — гэта гісторыя чалавецтва. Рымскія рабаўладальнікі праводзілі арыфметычны разлік: чым болей схапілі за Альпамі варвараў, славянскіх і германскіх нявольнікаў, тым багацей меліся. Пасля аказалася, што раб зменены ў мужыка лепей працуе; паншчына дазваляла яму мець сякую-такую прыватную ўласнасць, курную хаціну, агарод. Капіталізм вывеў яго з прыгоннай падлегласці ў кліента, прадаўца сваёй умеласці (купля — продаж, попыт — прапанаванне). Ідзе зараз эпоха, у якую праца наогул здымаецца з плячэй людзіна і пераносіцца ў сферу інжынерыі. Блізкі затым канец рабочаму класу. На Захадзе на дзесяць дарослых людзей дастаткова ўжо аднаго—двух для прадукцыйных занятказ; рэшта зарабляе на быт у паслугах — ад касметычных пачынаючы і на навуковых канчаючы (звыш паловы насельніцтва заканчвае вышэйшыя школы; у нас усяго каля сямі працэнтаў). На ўсходзе Еўропы тыя прапорцыі пакуль што дакладна адваротныя. Мазгі таннейшыя за вульгарныя мускулы. Дзівацьсь!

Калі б захоп сучаснай Беларусі прымножыў Расіі багацця, не было б справы. Але Беларусь — гэта нават не слабеючы даходамі Шлёнск, таму няхай яна мучыцца сама з сабою. Каму патрэбна яшчэ адна бяда на галаву?! Мытнікаў расійскіх, і тых нядаўна адкікалі з беларуска-польскага кардону, прызнаючы бяссэнс іх знаходжання тут, хоць і надта кароткага.

Моц Расіі ў незлічонай арміі, якая цягне яе ў гаспадарчую яму. А свет рады віаць цябе не з добрым у тваіх руках аўтаматам Калашнікава, але з якасным і недарагім таварам. Дзяржава накштал ваеннага лагера нікому не партнёр, а голы страх. Гора і слёзы! Дэмілітарызацыя расейцаў непазбежная. Разам з тым пякельная складанасць — што рабіць з тысячамі вайсковых заводаў і мільёнамі афіцэрні? Клопату на пакаленне.

І пад бокам гэтай жа Расіі, з пакрыўленым па-сірочаму тварам Жака-фаталіста — Беларусь: надзейна парусіфікаваная ды юрыдычна навек па-за Расіяй. Братняя, але не бывае так, каб брат брата дарма хлебам карміў. А калі таго хлеба і самому дабрадзею бракуе, сварня тады павісае на валаску. Беларускі брат заўсёды быў прыдатны старшаму на вайну або ў — pardon! — рабочае быдла. Войны вось насталі нейкія павятовыя, глабальнай не відаць, а з рабацягамі цяперашнім мірам не зойдзеш на Алімп навуковa-тэхнічнай рэвалюцыі (трэба булавастай галавы, не шырознага заду!).

Іронія гісторыі: ўсякія грызліся за Беларусь, мала не пападаўшы, каб у канцы нашага стагоддзя толькі абнюхваць яе і, падкуліўшы хвост, джгаць прэч... Яна не памерла. У летаргіі. Колькі можна драмаць, не ёўшы? Прачнецца. Скаланецца. Азірнецца, што нікога няма са скарынкаю напагатове, і завозьмецца сама быць. Не будзе ёй іншага выйсця.

*A propos: адзін у Крынках прапанаваў мне ва ўласнасць сваю бацькавую хату ў незайздросным стане ўзамен за прыватную ад мяне мінімальную рэнту яму. Дзівак! На халеру мне тое!? Сваю маю.*

# АДЗІН НАРОД, АДЗІН „ФОЛЬК"

*Працяг са стар. 1*

Гляньма, напрыклад, у сферу культуры. Народ перш за ўсё любіць песню, родную песню. У Менску, Пінску ці Віцебску рускамоўныя прыгажуні з вялікім энтузіязмам цягнуць „Касіў Ясь канюшыну", „Як жа ж мне не пець", а іх падпітыя мужыкі: „Шумеў камыш". А ці ж не таксама народ кахае гэтыя песні і ў нас тут, на Беласточчыне? Народную песню, вышыўкі, вырабы з саломкі вельмі любяць таксама ўлады. Часта высокія ўраднікі сціскаюць рукі выканаўцам, а пахвалам з іх боку няма канца.

Але паспрабуй з гэтымі закланочанымі пра лёс беларускай культуры дзядзькамі пагаварыць пра школу, нейкую навуковую установу для беларусаў. Колькі тады фармальных і нефармальных перашкод раптам узнікае. Аказваецца, між іншым, што каб даць беларусам магчымасць займацца навукай, трэба парушыць усё дзяржаўнае заканадаўства, ствараючы прытым пагрозу развалу фінансаў універсітэта, міністэрства адукацыі, а магчыма і дзяржавы. Паслухаўшы такія аргументы, чалавек пачынае мець жаль да сябе, што дамагаючыся навуковай установы можа прывесці дзяржаву да такіх турботаў. Не навука, інстытуты, выдавецтвы, школы але менавіта фальклор, народная песня, фэстыны, абраднасць з'яўляюцца найбольш перспектыўнымі для развіцця нашай нацыі. Наплявацьнам на камп'ютэры і энцыклапеды.

Якія цудоўныя праграмы на беларускай мове прапануе тэлегледачам менскае тэлебачанне — інтэлектуальныя разважанні трактарыста пра палітыку, вясельныя абрады ў выкананні прыгажунь-супрацоўніц менскага раённага дома культуры, фальклорны калектыў з нейкай вобласці і песні, песні, шмат песень пра каханне, прыроду, працу. Асабліва прывабна прадстаўляюцца сяміддзесяцігадовыя спявачкі ў любоўным рэпертуары. Можна сабе ўявіць як такую эстэтыку ўспрымае моладзь.

Усе сучасныя формы культуры прапагандуюцца аднак на другім дзяржаўным, „общепонятном языке".

Не гонар беларускаму інтэлігенту з Менска ведаць родную мову, але ганьбай ёсць дрэнна валодаць расейскай. У Беластоку нават з гордасцю ўспрымаецца сярод г.зв. нашых людзей — наменклатуршчыкаў сялянскага паходжання — заява: „nie znam białoruskiego, ale trochę rozumiem, gdyż moja babcia, gdy byłem u niej na wiosce, rozmawiała podobnie". Значыць, беларускі інтэлігент не пагарджае мовай сваіх дзядоў, ён нават мае адвагу прызнацца, што яе трошку разумее. І гэта дакладна таксама, як у Менску ці Гродне. Па абодвух баках керзанскай мяжы пануе поўная талерантнасць у адносінах да беларускай мовы з боку саміх беларусаў. Не крыўдзяцца і не абражаюцца, калі да іх загаворыш на той жа мове, у найгоршым выпадку ўспрымуць цябе як размарожаны экспанат пятнаццатага стагоддзя. Ці ёсць яшчэ такі незвычайны і талерантны народ у свеце, які любіць усё чужое больш, чым сваё? Што там „сваё", яно проста не мае права існаваць, каб не рабіць прыкрасці — самім існаваннем — суседзям. А суседзям часам бывае прыкра, наконт гэтага няма ніякага сумнення. Пачытайце хаця б беластоцкую прэсу і публікацыі ў справе вяртання гістарычных назваў мясцовасцям Беласточчыны. Як бы „нашыя" войты і райцы голасна не крычалі: не хочам ніякіх зменаў, ні гістарычных назваў, усё-такі прыкра тутэйшым палякам, што нейкі Беларускі саюз нечага дамагаецца апрача дазволу на спяванне народных песень. А можа нехта павінен перапрасіць пакрыўджаных за ініцыятыву Яраслава Яновіча?

**Васіль Кургановіч**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### Партызанскі шантаж

У пачатку 1943 года, асабліва пасля сталінградскай бітвы, дробныя групы лясных марадзёраў сталі гуртавацца ў больш арганізаваныя партызанскія атрады, але сваёй грабежніцкай дзейнасці не пакінулі. Далей здараліся выпадкі, што людзі з лесу ў адной вёсцы забяруць у селяніна каня, карову ці вопратку, а ў другой прададуць нарабаванае дабро за гарэлку.

У другой палове таго ж года партызаны прымаюць удзел у сутычках з паліцыяй і нямецкім войскам. У выніку немцы пачалі рэпрэсійныя дзеянні супроць насельніцтва. У ліпені 1943 г. вакол Налібоцкай пушчы немцы спалілі ўсе населеныя пункты ў радыусе пятнаццаці кіламетраў, а ўсіх жыхароў вывезлі ў Нямеччыну (тыя, што перажылі жудасны час, пасля вайны вярнуліся на бацькаўшчыну). Акупацыйныя ўлады абвясцілі адозву да партызан, у якой заклікалі іх здавацца ў палон, за што будзе ім даравана жыццё. Некалькі чалавек паслухалі немцаў. Здаліся тры партызаны з Аталезі і па адным з Апечак і Найдзёнавіч (яны пасля 1945 г. таксама вярнуліся на радзіму).

Летам 1943 г. наш дом наведалі партызаны з атрада імя Суворава і запатрабавалі аддаць ім зброю, якую я і сябры Саюза беларускай моладзі назбіралі і прыхавалі ў лесе. Відаць, нехта з нашых юнакоў здрадзіў. Партызаны прытым паставілі ўмову: або аддам ім зброю, або забяруць у бацькоў апошнюю жывёлу. У мяне не было іншага выйсця, як аддаць частку назапашанага ўзбраення — ручны кулямёт і некалькі стрэльбаў. Гэты начны візіт стаў пачаткам маёй і майго дваюраднага брата Эдмунда Пракаповіча бяды. З гэтага часу пачаўся бяздумны шантаж у адносінах да нас абодвух. Партызаны, пад пагрозай паведамлення паліцыі, што мы перадалі ім зброю, загадалі нам развешваць антыгітлераўскія, нямецкамоўныя лістоўкі паблізу салдацкіх кватэр. А побач Кучкуноў, на чыгуначным прыпынку кватаравала каля трыццаці нямецкіх жаўнераў, якія ахоўвалі пуць і мост на рацэ Адцэдцы. Ну што ж, прыйшлося расклейваць лістоўкі, хаця душа ў пятхі хавалася.

Перад першым маем 1944 г. партызаны выклікалі нас абодвух на сустрэчу ў лес, далі васьмікілаграмную міну і загадалі падлажыць яе пад рэйкі. Растлумачылі нам як і ў якім месцы заманціраваць міну і абяцалі больш не турбаваць нас. 30 красавіка а 14 гадзіне падлажылі мы міну ў аддегласці 300 м ад вёскі. Неўзабаве ўзарваўся пасажырскі цягнік, а паравоз і два вагоны пайшлі ў адхон. Знішчана было 80 метраў чыгуначнага палатна, былі людскія ахвяры сярод пасажыраў-салдат. Аж страх успамінаць, што дзеялася потым. Немцы акружылі вёску і ўсіх жыхароў сагналі на выган. Нямецкі афіцэр звярнуўся да сялян з патрабаваннем выдаць сабатажнікаў. У натоўпе знаходзіўся толькі я сам, бо Эдзіку ўдалося ўцячы з вёскі. У гэты момант да выгана наблізіўся на матацыкле камендант лясной аховы „Форсткаманда" па прозвішчу Гойер. Звычайна ён быў люты ў адносінах да жыхароў (не было дня, каб кагосьці не адлупцаваў палкаю за абы-што), але тады перайтварыўся ў зусім добрага чалавека. Пабачыўшы перапалоханых і збітых у кучу сялян, падышоў ён да палкоўніка і стаў тлумачыць, што гэтыя людзі ні ў чым не вінаватыя, бо яны садзейнічаюць з немцамі ды служаць у „Форсткаманда", беларускай паліцыі і войску. І сапраўды, восем маладых хлопцаў з Кучкуноў былі функцыянерамі на пастарунку лясной аховы ў Адцэдзе, трое служылі ў паліцыі, а пяць былі мабілізаваны і служылі ў Беларускай краёвай абароне. Палкоўнік аднак быў пераканаўны, што бачыў, як пасля ўзрыву дзве асобы ўцяклі ў напрамку вёскі (гэта былі мы). Гойер нейкі час пераконваў афіцэра, што гэта маглі быць партызаны, і хаця яны маглі ўцякаць у напрамку вёскі, то ў Кучкунах напэўна няма ні партызан, ні бандытаў. Камендант „Форсткаманда", відаць, пераканаў палкоўніка, бо той загадаў сабраным за пяць мінут апынуцца на сваіх панадворках, бо ў іншым выпадку кожнага напатканага на вуліцы застрэліць. Дзякуючы Гойеру жыхары вёскі, у тым ліку і я — асноўны віноўнік — асталіся ў жывых. Калі на цвярозы розум разабрацца ў справе, тады ўзнікае пытанне: ці ж не было гэта злачынства з боку партызанскага камандзіра, каб падкладаць узрыўчатку паблізу вясковых сядзіб?

Пасля гэтага здарэння нам з Эдзікам яшчэ пяць разоў прыйшлося падкладваць міны пад рэйкі. Тройчы нам удалося ўзарваць варожыя цягнікі, а дзве міны немцы выявілі і абясшкодзілі. Апошні выпадак трагічна закончыўся для жыхара Яблынаўкі. Было гэта 12 мая 1944 г. Раніцай каля вёскі Адцэда немцы прыкмецілі пад рэйкамі міну. У той час ехаў дарогаю на фурманцы Кастусь Карповіч сын Хведара з Яблынаўкі. Немцы пазвалі мужыка і загадалі, каб той уласнаручна выцягнуў міну. Селянін не ведаў як гэта зрабіць і ў адчаі кінуўся наўцёкі. Немцы застрэлілі яго з аўтаматаў.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# Яська з-пад бору

*(быль)*

Дом пад сасновым борам. Стройныя карабельныя сосны на пагорку, на падворак уваходзяць каржакаватыя, шырокакроныя самасейкі гадоў па 60-70. Пад соснамі расце пажухлая тонкасцёблая рэдкая трава, у цёплым пяску грабуцца і грэюцца старыя куры з даўгалыгім пеўнем з трыма пёркамі ў хвасце. Баявіты, хоць абдзерты певень ускочыў на пянёк, залапатаў крыллем, уздымаючы пілавінне і пачаў злосна дапытвацца: „Куда ты? Куда?!"

Я сёння ў госці да гаспадара гэтай грамадкі курэй, няполатага агародчыка, у якім лебяда і чарнобыль выбуялі да паўвакна, дома з сівых бярвенняў, што яшчэ дзед ставіў зараз пасля вайны... Да ўнука сёння іду ў госці таго дзеда Міхайлы, якога ведаю з пажоўклага здымка, што заўсёды насіў з сабою Яська.

Унук сам бы мог ужо быць дзедам, калі б так, як Міхайла, сына меў у дзевятнаццаць гадоў. А так Яську толькі трыццаць восем, а, можа, лепш сказаць „ужо" аж столькі, і сына ў яго няма, ні дачкі, ні жонкі, а тым больш унука. Нядаўна гаспадарку ў свае рукі ўзяў — бацька паспеў перад смерцю („закурыўся насмерць", казала Яськава маці, Люба) передаць яе Яську.

Не думаў Яська, што давядзецца вярнуцца яму ў сваю вёску. Не мог усядзець на адным месцы. Ужо да арміі кавалак свету пабачыў, за свой грош жыў. За мяжу збіраўся з'ехаць, ды границы пазачынялі, а яму, ужо ў вайсковым адзенні, дзеўка-студэнтка ў твар наплявала, калі ў восемдзесят другім спакойна ішоў па варшаўскай вуліцы, з польскім арлом на шапцы.

— Плюй, дурная, на свайго арла, ён не мой! — адказаў Яська дзяўчыне.

— Ludzie, ruskie w naszych mundurach! — збегся наўкол Яські раз'юшаны натоўп.

Яська не хоча ўспамінаць таго часу. За службу ў Ярузельскага прапанавалі яму вучобу ва універсітэце без экзаменаў. Чаму адмовіцца — „матуру" меў, ненайгорш вучыўся ў сваім тэхнікуме, варта было б пабыць „вольным студэнтам". Выбраў гістарычны факультэт. Думаў узяцца салідна за навуку, а піў увесь першы семестр. На занятках адчуваў сябе страшна — не ведаў так многа, саромеўся, і зноў піў, каб не думаць пра тое, што ён — горшы. Мелі яго за блазна і студэнты, і выкладчыкі, якім патрапіў сказаць: „Ты, Мецё, пачакай, зараз свой *пюрнік* знайду..." Спачатку здаваўся ім збунтаваным героем з лесу, нейкім Робінам з пушчы, ваюючым з нячыстай сілай таталітарызму ў думках, але замала было ягонай здаровай кемлівасці вясковага разумака, каб адолець праграму гуманітарных студыяў. Тым больш, што алкаголь з Яськавай галавы не выпараўся, не даваў ніякіх шанцаў запоўніць прабелы ў адукацыі. Спакаваў свой рукзачок Яська зараз пасля Новага года і паехаў да сябра з арміі, які меў сваю кватэру недалёка інтэрната. Паўгода бадзяўся ў горадзе, з хаты браў харчы і грошы, якія крадком хавала для яго маці за праданыя яйкі і смятану. Дзяўчына з *паланістыкі*, Ёлька, адна з найлепшых студэнтак на аддзяленні, з якой „круціў" ад кастрычніка, заходзіла да яго ў госці штораз радзей, і аднойчы, лежачы ў пасцелі, выдзьмухваючы дым таннай „карткавай" цыгарэты, сказала Яську:

— Янак, у мяне ёсць іншы сябар. Мы разумеем адзін аднаго выдатна. Канчае палітэхніку. Ведаеш, секс гэта не ўсё, хоць не адмаўляюся час-часом да цябе завітаць. Але перастань гаварыць глупствы пра нашу супольную будучыню. Сам добра ведаеш, да чаго толькі надаешся, Ясю. Не прыходзь да мяне больш у інтэрнат, збірайся ў свае Путрыкі, чаго тут час марнуеш, з бацькоў апошні грош цягнеш.

Вярнуўся Яська да бацькоў. Тры сёстры былі ўжо замужам. Малодшы брат вучыўся ў майстра на „глазурніка"; той ужо меціў яго ўзяць зяцем — надта ж спадабаўся Багдан майстравай дачцэ. Бацькі яшчэ дужыя былі, рабілі ў гаспадарцы ўсё самі. Яська зачапіўся на чыгунцы. Калі пайшлі групавыя звальненні, пачаў ездзіць у Гродна з кантрабандай. Панашываў спецкашулек і падштанікаў з адмысловымі трубкамі-кішэнямі, куды напіхваў пачкі цыгарэт. Удавалася. Заробак, усё ж, рабіўся ўсё меншы. Абрыдла Яську хаваць тавар пад падлогамі вагонаў, мытнікі раз-пораз пачалі дамацвацца пачак перавожаных на целе. Што за жыццё — ні сну, ні адпачынку — ездзіў жа Яська не адзін раз у Гродна штодзённа. Кінуў. За тое, што зарабіў, адрамантаваў унутры бацькоўскую хату, купіў матацыкл маркі „Хонда" і бульбакапалку. Рэшту прапіў з сябрамі.

Калі не хапіла грошай на „Раял", паставіў Яська ў склепе на падворку, крытым дзёранам, адмысловую апаратуру. Дым выходзіў у бор. „Мелі нос" на дымна-горкія араматы сябры з акаліцных вёсак. Нават Яська і не ведаў, што ў яго столькі сяброў!

Усе сябры балююць за Яськавым старым сталом на моцных, кручаных чорных нагах. Кавалеры старыя і маладыя, — перш за ўсё яны, але на першачок часценька заглядае і нестарая ўдавіца Насцечка, і распусная бяззубая саракагадовая Гэлька, што вярнулася на бацькоўскае, пакінуўшы сваіх траіх мужоў-не-мужоў, што „ніколі мужчынамі не былі", як сама кажа (за кожным з іх асталася ў Гэлькі памятка — жменя ейных зубоў)... Хто зваліцца з ног, то і заначуе. Так у Яська асталася за гаспадыню Гандзя, старэйшая ад яго на роўна дзесяць гадоў. П'е роўна з мужыкамі, але ў хаце нейкі парадак трымае, карову доіць, калі зможа, у агародзе тое-сёе пасадзіць. Найбольш працівілася маці, каб Гандзя тут гаспадарыла, але не змагла пераканаць сына ды ўцякла да найстарэйшай дачкі ў Беласток.

Спачатку з Яські шмат хто смяяўся, што ўзяў такую, на якую ніхто не пакваліўся ў жонкі браць, але ён толькі ўсміхаўся. Хай будзе хоць такая, худзюшчая як дрот, з рабым носам-дзюбаком, але нашто яму, Яську, бегаць па чужых? І ў хаце больш-менш парадак. Дзяцей ужо ў Яські надзеі мець няма. А калі б трапілася якое, то і яно забярэцца ды пойдзе ў свет. Дарога кожнаму адкрыта — рабі што хочаш, едзь куды хочаш, жыві як хочаш. Вяртаюцца толькі такія неўдалоты, як сам Яська...

Гэта ўсё раскажа мне Яська пасля. Цяпер стаю перад брамкай, азіраюся на сабаку, які, выгнуўшы ў дугу сваю рабрыстую постаць, заядла, да сіпаты цяўкае на ланцугу. Яська павінен мяне памятаць — жыў жа ў інтэрнаце па-суседску, шмат мы размаўлялі... Але, як жа ж не пазнаць — бярэ мяне абросла рудой барадой гаспадар за белыя рукі, вядзе ў свае харомы. За сталом спіць, аперты нягаленай шчакой у бліскучую цырату малады вельмі прыгожы хлопец. Русая доўгая чупрына мокне ў мутнай калюжынцы. Падсоўваюся каля яго на столку. Гаспадыня нясе міску з густой цёплай капустай, Яська — бабах! — на стол зялёны буталь. Не, у ім не шампанскае! Нюхаю: свежанькі першачок.

— Частуйся! У інтэрнаце горшае свінства даводзілася піць, якое самагонкай не назавеш. А вось гэта — проста *цымэс*! — цмокае Яська і налівае мне ў шклянку мутнаваты напой. — Ну, пытаешся, як нам жывецца... Жывем як можам найлепш.

**Міра Лукша**

# Шылі шчацінай з дзіка

— Калісь елі таўканіцу з бульбы. Дадавалі гарох, мак, фасолю. А найлепш то смакавала каша. Гэта не тая каша што цяпер — з зерняў. Кашу калісь рабілі так: церлі бульбу, дадавалі соль і скваркі, клалі ў гаршчок і стаўлялі ў напаленую, як да хлеба, печ. Ішлі ў поле і як вярталіся, даставалі яе і елі пакрапіўшы алеем або закрасіўшы скваркамі або молатым макам. А якая смачная была! Або картофлю пяклі і ў сцірку завілі. А палілі тады ў печах ано хворастам, бо дроў не было. А алей то ў Гарадку ў маслабойні выціскалі. Дома ўвесь алей перасмажвалі на патэльні з цыбуляй і ў літры разлівалі. А тое, што ад алею аставалася — макуху, разварвалі і цялятам давалі, каб на панос не хварэлі. Вельмі добрая была, здаровая. Насенне ільну сушылі, малолі, і з бульбай елі. Малолі ў глінянай мяліцы, каб семечкі не коўзалі. Малолі лён і мак. А мяса мала елі — калолі толькі раз у год, на Каляды. Білі свінню і ў хаце разбіралі.

— Пасля вайны то я на Прусы на заробкі ездзіла. Заходзіла да „затрудненяя", там дазнавалася куды ехаць і ехала. Заўсёды месца ў маёнтку было. А мужчыны на лесапавал ездзілі.

— У вайну клалі асфальт на шашы Беласток—Ваўкавыск, бо жвіровая была. Хадзілі мужчыны з кожнай вёскі — па адным ад сям'і. Ад нас хадзіў спачатку брат, а потым солтыс вызначыў мяне. Было мне якіх 14—15 гадоў. Хадзілі на станцыю Бераставіца, 7 кіламетраў і на сёмую гадзіну раніцы. І нельга было спазніцца, бо калі няма ўпору, то наштурхаюць. Аднойчы я і яшчэ адзін спозніліся. Што рабіць, ці то ўцякаць, ці ісці. Ідзем. Заўважыў нас немец, шэф, паклікаў пальцам, вычытаў, сказаў „gut" і пайшоў. Прыходзіць з кіём дзеравянным. То я як даў адтуль! Быў гасцінец перацягнуты калючым дротам, то як уцякаў, то аж кроў з жывата пайшла як дрот той парваў. Прыходжу дадому і гавару маме, што ўжо больш у Бераставіцу не пайду. Ну то мама ўзяла мёду, гарэлкі і пайшла ў Ялоўку да амтскамісара. Амтскамісар сказаў, што мушу працаваць і пайшоў я такім чынам за вучня на практыку ў шаўца. Вучыўся паўтара года ў шаўца ў Свіслачанах. За навуку трэба было заплаціць 10 метраў жыта, а за днёўку тады давалі паўпуда. У сорак чацвёртым немца пагналі, фронт стаў на Віслe і мой настаўнік паехаў у Беласток і стаў на працу на чыгунцы, каб у войска, на фронт не бралі. Звакаваў ён і мяне. Стаў я на пасаду машыніста, а працаваў шаўцом. Рабілі мы абутак чыгуначнікам — шылі новыя і рамантавалі старыя. Як вайна закончылася то рускія здавалі ўсё палякам. Я адказаўся ад працы на чыгунцы і вярнуўся ў вёску, адкрыў майстэрню і рабіў боты аднавяскоўцам — мусіў адрабляць за каня, бо свайго не было. За матэрыялам ездзіў у Крынкі да гарбароў. Калі не хапала шкуры, то падэшвы з аўтамабільных шынаў рабілі: абдзіралі палатно і клалі ў печ пасля выпечкі хлеба. Апона распарвалася і ў чатырох—пяцёх дзерлі абцугамі. Дратвы матка сама з канапель рабіла. Гвоздзяў металёвых не было — сам рабіў драўляныя. Падэшвы вырэзваў сам — нажом. А нажоў то не куплялі, самі выраблялі. Найлепшыя то са шлемаў былі. А калодак не рабілі, толькі похвы са шкуры, каб рук не парэзаць. І рант выціскалі прыборам сваёй работы. А іголак не было; ну, значыць, яны то былі, толькі грошай не было, каб іх купляць. Шылі шчацінай, шэрсцю з дзіка. Канец дратвы зараблялі натонка і завівалі з раздвоеным канцом дзікавай шчаціны. У дзікаў верх шэрсці раздвоены або растроены і так яго больш крыху раздзіралі і завівалі з дратвай, а другім канцом шчаціны далікатна, з чуццём, праводзілі праз дзірку ў шкуры. Дзірку рабілі шылам, якога таксама не куплялі, толькі самі выраблялі са шпрыхаў. Дратву шмаравалі воскам — каб не гніла. Воск быў пчаліны. Яшчэ змазвалі дратву і чорнаю смалою, якую ад чыгуначнікаў бралі. Воскам таксама шмаравалі абутак, каб блішчэў. Амбусам — куском жалеза разводзілі гарачы воск па шкуры. Матэрыял не заўсёды добры быў — бывала, як намокне, бот сцягаецца. Тады шмараваў дэнатурай, бо дэнатура шкуры не псуе, а змякчае і яна лёгка раздаецца. Расцягваў боты правідламі, якія таксама сам з бярозы рабіў. Шыў розны абутак, залежна ад моды: і афіцэркі, і закапянкі, і нарцыркі, і пантофлі, і чаравікі. І валёнкі абшываў. Лапцяў то я ўжо не рабіў, лапці рабіў яшчэ мой бацька. Пасталы рабілі з цвёрдай шкуры — з конскіх або каровіных ілбоў. З аднае галавы выходзіла па тры пары падэшваў. У падэшву ўшывалі „вушы", 6 штук: 2 спераду, 2 пасярэдзіне і 2 ззаду. Круцілі вяроўку і засягалі ў гэтыя вушы, а потым сцягвалі на авінутай анучаю назе. Лыка дзерлі з ліпы, з пасынкаў, адросткаў, нажом нарэзвалі і лёгка сходзіла. Звівалі потым у баранкі, сушылі, а пасля мачылі ў вадзе і плялі. З людзьмі разлічваўся збожжам або грашыма. Афіцэркі каштавалі 500—700 злотаў. А найбольш работы то было перад святам — бывала, што працаваў ад трэцяй раніцы да дзесятай вечара. Як вярнуўся ў пяцьдзесят першым з войска, стаў на працу ў майстэрні ў Коматыках, а ад пяцьдзесят чацвёртага тут, у Свіслачанах. Належаў да Spółdzielni Szewsko-Cholewkarskiej, што ў Беластоку пры Варшаўскай 5. Здаецца, што і цяпер там шавецкая майстэрня яшчэ існуе. За таварам ездзіў сам, поездам у Беласток. Спачатку працаваў разам са сваім настаўнікам на яго машыне, а ў 1953 годзе купіў сваю. Як сталі шыць абутак у фабрыках, то і работа пачала зводзіцца. Кінуў я шавецтва і стаў працаваць у клубе — „клюбовым". А потым працаваў яшчэ ў магазіне (складзе) ў Зубрах: прымаў бульбу або прадаваў „навозы". Гаспадарку здалі, але зямлю абрабляем. Узялі на „ўмову", бо як больш зямлі, то менш трэба плаціць: плацілі спярша мільён трыста, а цяпер, як на „ўмове", то толькі дзвесце тысяч. Зямля неападаткаваная, бо ў нас пяты клас. Трымаем каня, карову, свінку. Малако па чарзе ў Зубры возім.

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**

Зорка
старонка для дзяцей

# У Чаромсе спяваюць

У Чаромсе многія дзеці спяваюць і іграюць на інструментах. У гэтым годзе былі яны на аглядзе дзіцячай беларускай песні. З Чаромхі прыехала адзінаццаць школьнікаў. Выступалі яны ва ўсіх магчымых катэгорыях — сола, у дуэтах, тэрцэтах і квартэтах. Наймалодшая салістка Паўлінка Барысэвіч праспявала песню пра павучка. Вельмі ўсім спадабалася гэтая дзяўчынка. Спявала яна вельмі выразна і прыгожа, а сама песня мела жартоўны змест.

Хлопцы выступалі ў тэрцэце. Разам з імі выйшла іхняя сяброўка, якая іграла на гармоніку. Самым удалым творам атрымалася народная песня „Чаму ж мне не пець". Хлопцы на дадатак падмацоўвалі свае спевы жэстамі, якія выяўлялі задаволенасць шчаслівага кавалера. І варта дадаць, што былі яны нямногімі хлапчукамі на сцэне.



Справа ў тым, што пераважаючую колькасць самадзейнікаў складаюць дзяўчаты, асабліва ў вясковых школах, дзе цяжка сустрэць адважнага спевака. На шчасце ў Чаромсе спяваюць і дзяўчаты, і хлопцы. Сустракаюцца яны ў доме культуры.

— Спяваем ад нядаўна. У Чаромсе многа таленавітых дзяцей, — адзначыла Барбара Козуб, настаўніца спеваў і ігры на інструментах у чаромхаўскім ГОКу.

г.к.

## Вершы Віктара Шведа

### Гісторыя любіць паўтарацца

Спытаўся на бацькоўскім сходзе:
— Як вучыцца мой Валодзя?
Адказ атрымаў нечаканы тата:
— З гісторыі сынок ваш слабаваты.

Тата пачціва адказаў на гэта:
— Я меў таксама клопат з тым
прадметам.
Настаўнік кажа: — Нельга тут
здзіўляцца,
Гісторыя любіць паўтарацца.

### У таты грошы ў дзень выплаты

Калі мы скажам: „Мае грошы тата",
Які ж гэта будзе час?
— Дык час цяперашні, — прыўзнятым
Голасам пацвердзіў клас.

— Па-мойму прошлы, — пярэчыць
Агата,
Упэўнілася ў гэтым я сама.
У таты грошы толькі ў дзень выплаты,
А сёння ўжо тых грошыкаў няма.

### Будуць карамелькі за бутэлькі

Просіць татульку малы Лёва:
— Вазьмі мяне на пабудову.
— Хочаш убачыць там, мяркую,
Як мы, будаўнікі, будуем?

— Мяне будова не цікавіць,
Вось у мяне другая справа.
Хачу там пазбіраць бутэлькі,
Купіць за іх шмат карамелькаў.

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### Мышка Пік-Пік як навуковае адкрыццё

У хуткім часе пасля таго, як мышка пафарбавала поўстачку на сваёй галаве адварам шалупіння цыбулі, у госці да Вераніччынай і Максімкавай мамы прыйшла госця, якой мышка страшэнна баялася. Гэта была цётка Ірына, біёлаг. Цётка Ірына працавала ў Акадэміі навук і займалася тым, як Пік-Пік зразумела з яе расказаў, што ставіла па палях і лясах пасткі на мышэй, пасля збірала сваю страшную здабычу, адносіла ў месца са злавеснай назвай „лабараторыя" і разам з хаўрусам гэткіх жа бязлітасных асобаў „вывучала". Пік-Пік вельмі баялася, што цётка Ірына захоча „вывучаць" і яе. Таму заўсёды ў часы цётчынага гасцявання хавалася ў норку. Але на гэты раз мама спякла для цёткі смачны торцік, і пах ад пачастунку разыходзіўся па ўсёй хаце. Цярпела Пік-Пік, цярпела, а пасля падумала: „Гэтая ж цётка ўвесь торцік з'ссць! Я павінна ад імя мышынага племя не дапусціць гэтага!"

І мышка папаўзла ў залу. Ёй удалося непрыкметна прабрацца пад канапу, на якой сядзелі цётка і мама, і нават ускараскалася на маленькі столік з торцікам. І нават адкусіць кавалачак... І яшчэ... яшчэ... І згубіла мышка пільнасць.

І тут цётка Іра закрычала немым голасам:

— Трымайце! Лавіце! — і паспрабавала накінуць на мышку свой шалік. Пік-Пік плітанула ў норку і сядзела там, дрыжучы ад страху. А цётка Іра поўзала па пакоі, зазіраючы пад мэблю, і ўзбуджана прыгаворвала:

— Гэта ж трэба! Проста на стале ўбачыць прадстаўніцу новай, невядомай разнавіднасці мышэй! Я назаву гэтую разнавіднасць „мыш чырвонагаловая тоўстая", і напішу пра яе дысертацыю, і мне прыбавяць зарплату... Эх, толькі б знайсці, дзе яе норка! Там мусяць быць яшчэ такія мышы! Абы ніхто мяне не апярэдзіў... — і цётка Іра поўзала па хаце, а мама спрабавала ёй растлумачыць, што гэта ніякая не „разнавіднасць", а звычайная шэрая мыш, якая зрабіла сабе фрызуру з дапамогай адвару шалупіння цыбулі, а тоўстая яна таму, што любіць есці торцікі...

Нарэшце цётка Іра ўстала з падлогі.

— Я не магу даць веры таму, што ты гаворыш, — халодна прагаварыла навукоўка. — Пакуль не даследую тае з'явы, — (гэта значыць, мяне!) — падумала Пік-Пік, — а цётка працягвала: — Мы не маем права хаваць ад навукі новыя факты! А што калі гэта мутацыя ад радыяцыі ці яшчэ якой халеры?

Мама напалохалася, кінулася да мышчынай норкі і паўгадзіны ўгаворвала мышку выйсці. Нарэшце няшчасная Пік-Пік вылезла. Мама ўзяла яе на рукі і паднесла да цётчынага носа. Цётка Іра перамацала мышку, як магла, нават зазірнула пад хвост, нарэшце панюхала чырвоную галаву... Пахла цыбуляй, як велікоднае яйка...

— Звычайная мыш... Я такіх кожны дзень з „душылак" вымаю... — з крыўдай зазначыла цётка. Мама выпусціла Пік-Пік, і тая вярнулася ў норку.

Цётка Іра хутка пайшла. А мышка была суцешаная хіба адным. За тое, што наважылася аддаца „даследаванню", атрымала ад мамы абяцаны кавалак торціка, арэх, цукерку і абгортку ад жуйкі з Мікі-Маўсам у дадатак.

Людміла Рублеўская

## ДЗІЦЯЧЫЯ МАЛЮНКІ



*Ікона.*
Малюнак Адама Сцепанюка з Гукавіч

## Рашэнне штомесячнага конкурсу „Зоркі"

Узнагароды ў ліпеньскім конкурсе нашай дзіцячай старонкі выйгралі:

Кніжкі Максіма Танка „Ехаў казачнік Бай":

1) Мілена Яканюк з Крывой
2) Моніка Мельнік з Бельска-Падляшскага
3) Аня Аўсянюк з Бельска-Падляшскага

Касету рок-гурту „Брага":

4) Міхась Сцепанюк з Бельска-Падляшскага

**Рэдакцыя „Зоркі" дзякуе Лявону Тарасэвічу і Багдану Сіманенку, якія ўфундавалі ўзнагароды нашым чытачам — касеты рок-гурту „Брага".**

# Вясёлы куточак

Баба-яга ідзе па рэйках чыгункі. З-заду чувацъ свіст цягніка. Баба-яга не зыходзіць з дарогі.

— Слаўныя дзеўкі не азіраюцца, калі за імі нехта свішча! — бармоча сабе яна пад носам.

* * *

Побач мяне быў вялікі леў, па левым баку — тыгр, а ўперадзе і з-заду — вялікія сланы.
— І што было далей?!
— Карусель затрымалася.

* * *

Індзейскае сужонства глядзіць тэлебачанне. Раптам прапаў вобраз. Індзеец кажа жонцы:
— Збегай па чарадзея, нешта зноў у тэлевізары папсавалася.

* * *

Размаўляюць дзве дзяўчынкі:
— Маці гаварыла, што калі я прыйшла на свет, мяне было пяць кілаграмаў.
— То цябе не кінуў бусел?
— Не, пэўна страус зрабіў гэта за яго.

* * *

Паліцэйскі гоніць злачынцу.
— Стой, стой! — крычыць да ўцекача.
Той аглядаецца і крычыць ахоўніку правапарадку.
— Ты стой, цябе ніхто не гоніць!

З-ка

## Чаму жук гудзе

Насякомыя — не нямыя; яны рознымі спосабамі кантактуюцца з сабою і акружэннем. Пчала сваімі паводзінамі і выдзяляемым пахам інфармуе свой рой пра знойдзены корм і напрамак, у якім ён знаходзіцца. Мурашка пазначае дарогу да корму. Цыкады кантактуюцца між сабою з дапамогай вібрацыі спецыяльных плевак. Як бачым, насякомыя маюць здольнасць даваць акустычныя, датыковыя, хімічныя сігналы. Большасці з гукавых сігналаў мы не чуем. Мы можам успрымаць гукі, якіх частата не перавышае 13 000—20 000 герцаў; частата акустычных сігналаў насякомых значна вышэйшая. Таксама і інтэрвалы паміж гукамі — чалавек успрымае толькі большыя за 0,1 сек., тады калі насякомыя ў дзесяць разоў меншыя. Падаюць яны голас у розных сітуацыях, ці то каб адстрашыць агрэсара, ці калі самец інфармуе іншых аб занятай ім прасторы. Найчасцей аднак вядучую ролю адыгрываюць гукі ў працэсе размнажэння, калі самкі прываблівають самцоў да сябе, а пасля стымулююць іх да капуляцыі. Насякомыя падаюць голас на розныя спосабы, залежна ад асяроддзя, у якім прабываюць. Найчасцей труць крыламі, нагамі, жывоцікамі. Гэтыя часткі цела спецыяльна прыстасаваны да стварэння гукаў. Саранчовыя, напрыклад, маюць на задніх ножках радок калючак, якімі, як таркаю, паціраюць бочныя паверхні крылаў, а ў цвыркуноў пярэднія крылы маюць павырэзваны зубочкі, спецыяльна для гэтай мэты. Іншыя гатункі падаюць голас з дапамогай вібрацыі крылаў. Некаторыя насякомыя не маюць, аднак, на сваім целе прыстасаванняў для генерацыі гукаў, але ўсё-ткі падаюць акустычныя сігналы. Для гэтай мэты выкарыстоўваюць яны асяроддзе, у якім жывуць. Хрушчы, напрыклад, якія жывуць у драўніне, стукаюць у сцены свайго „доміка". А адзін гатунак паўднёваафрыканскіх цвыркуноў выкарыстоўвае рэзананс лісцяў, у якіх жыве. Пазнаць мову насякомых цяжка, аднак робіцца гэта не адно з чыстай цікавасці, але з практычных прадпасылак, галоўным чынам з увагі на магчымасць абмежавання расплоду шкоднікаў. Сёння вядома, што галасы і пахі насякомых нават падобных гатункаў, розняцца паміж сабою. Сярод каля 1 000 відаў, якіх галасы да сёння зарэгістраваны і вывучаны, няма такіх, якіх гукі былі б да сябе падобныя. Прымяняючы пасткі, аснаваныя на гукавым уздзеянні, не забруджваем асяроддзя і не шкодзім іншым гатункам. У сітуацыі, калі ядахімікаты ненамнога здаліся, біялагічныя сродкі, падказаныя самой прыродай, выглядаюць больш перспектыўна.

**Андрэй Гаўрылюк**



*Спартсмены з Ягуштова.* **Фота М. В.**

## Непатрэбная выручка

Пачатак лета — гэта час выхоўвання звярамі свайго патомства. У большасці гнёздаў з яек вылупіліся ўжо птушаняты. Калі яны нават ужо лятаюць, яшчэ нейкі час астаюцца пад апекай бацькоў і вучацца самастойнаму жыццю. Таксама і ў свеце млекакормячых. Гэты час, калі маладыя дарастаюць у сваіх гнёздах, норах ці логавах, з'яўляецца самым небяспечным у іх жыцці. Бязлітасна выкарыстоўваюць гэта драпежнікі. Неаднаразова і мы, калі ўбачым птушаня, якога першы вылет закончыўся ў крапіве, у папараці, ці пад дрэвам, на якім яго гняздо, падумаем, што перад намі сіротка, пакінутая бацькамі. І забіраем гэтае птушаня з сабою. Такім чынам кожнае лета забіраюцца сотні і тысячы звяркоў і птушак з іх сямейнай тэрыторыі. Вялікая частка з іх гіне ад голаду ці атручання ўжо пасля двух дзён. Не кожны мае ўмовы і час, каб заступіць ім бацькоў. Варта ведаць, што калі нават выгадуем птушаня і яно стане ўжо лятаць, то і так яно не выжыве ў прыродных умовах. У большасці гатункаў апека бацькоў над патомствам не канчаецца вылетам малышоў з гнязда. Яшчэ доўгі час родзічы астаюцца ім галоўнымі праваднікамі і карміцельцамі.



У салаўёў трывае гэта каля 10 дзён, а ў груганоў ці жураўлёў ад 3 да 4 месяцаў, а то і даўжэй. Дзікаму выхаванцу чалавек гэтага не запэўніць. Такі выхаванец, калі толькі выйдзе на свабоду, найчасцей становіцца ахвярай сабак ці злыдняў. Таму не забывайма, што домам звяроў з'яўляюцца лясы і палі і не забірайма іх прыродзе і іх бацькам — няхай у іх растуць і вучацца жыць.

**Андрэй Гаўрылюк**

### На галінцы

Непаседлівы жучок
Аддыхнуцца на сучок
Сеў, а побач павучок
Ткаў свой шоўкавы сачок.
Жук: „Зум-зум!", павук — маўчок.

### Што цікава паве

Ідзе пава на забаву
Ў госці да суседкі-павы.
Кладзе хвост пава на травы.
Усіх гасцей пава цікава.
А найбольш — паўлінаў з Трнавы.

**Міра Лукша**

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Галава царазабойцы

Вядома, калі б некаму ўздумалася пералічыць усе знакамітыя асобы з Грынявіч, што каля Бельска, заняло б яму шмат часу, бо было іх багата. Гэта ж сяло радавітых беларускіх баяраў-шляхты. Яны здаўна валодалі асабістай вольнасцю і іншымі немалымі прывілеямі дый умелі імі карыстацца дзеля свайго дабра.

Паданне кажа, што ў радавітага баярына Яўхіма Грынявіцкага было двух сыноў: старэйшы пасля заканчэння школ жыў і нечым займаўся ў Пецярбургу, а малодшы яшчэ вучыўся ў школе ў суседнім Бельску. Жылі ж яны поўнай чашай: бацькі глядзелі за ладнай гаспадаркай ды працай на ёй парабкаў і парабчанак, а сыны прывольнага свету смакавалі.

Ажно ні з таго ні з сяго аднойчы на сядзібе Грынявіцкіх з'явіўся цэлы ўзвод конных жандараў. Абхапілі яны двор, усіх насельнікаў — і гаспадароў, і службу і нават суседа, што выпадкова наведаўся — зараз жа ўвапхнулі ў баковачку, прыставілі да яе жандара з ружжом напагатове, забаранілі не толькі паварухнуцца, але і словам абмовіцца. За паўдняператрэслі ды перамацалі ў двары ўсё спрытна. Розныя паперы, кнігі, колішнюю шаблю ды старую паляўнічую стрэльбу загарнулі ў пасцілку і забралі. Потым выпхнулі ўсіх насельнікаў двара ў пакой і, ашаломленых дзіўным наездам, Яўхіма з жонкаю запыталіся:

— Ігнацій Яфімавіч Грынявіцкі — гэта ваш сын?

Бацькі са страху занямовілі, а Яўхім, падазраючы нядобрае, пачаў тлумачыцца:

— Гаспада, Грынявіцкіх на свеце многа... Гэта ж непадалёк Беластока іх таксама цэлае сяло, а, кажуць, і на Літве яны жывуць, і па Маларасіі рассыпаліся...

— Цябе пытаюцца не пра ваша паганае прозвішча, што пляміць нашу зямлю, але пра вылюдка Ігнацыя Грынявіцкага, ці ён — ваш сын?

Цяпер Грынявіцкім стала ясна, што на іх звалілася вялікая бяда, і яны пачалі аднеквацца: маўляў, ніякага Ігнацыя Яфімавіча ў іх няма і ніколі не было.

Тады жандарскі афіцэр міргнуў аднаму з жандараў, і той праз хвіліну прынёс нейкі скрутак, паклаў яго перад Грынявіцкімі, разгарнуў і адтуль выкацілася... чалавечая галава.

Усе ахнулі, а Яўхімчыха залямантавала, схапіла галаву ды павалілася на падлогу. Яна, цалуючы, абмывала слязьмі запечаную кроў з твару адсечанай галавы ды прыгаворвала:

— Сыночак мой родненькі, сынок... А што з табою сталася?..

Галава глядзела на яе, на бацьку, на родную хату шырока расплюшчанымі абыякавымі вачыма і маўчала.

Маці ж узяла яе аберуч і, быццам немаўля, пачала далікатна калыхаць ды прычытваць:

— Ігнатка, сынок, Ігнась...

Па-мужчынску, скупа, быццам саромеючыся, мо першы раз у жыцці ўсплакнуў і бацька.

— Няма чаго распачаць па мярзотніку! — загудзеў злосны голас афіцэра. — Ён забіў нашага найсвятлейшага манарха, цара!..*/

На гэтыя словы чэлядзь ахнула і пацяснулася да дзвярэй.

— Стой!.. — гаркнуў на яе афіцэр.

Жандары Яўхіму і жонцы выкруцілі назад ды звязалі рукі, закінулі на шыю вяроўкі і, быццам жывёлу з хлява, вывалаклі на панадворак. Затым перавязалі па двох, па трох службу і таксама выпіхнулі з хаты. Самі селі ў сёдлы, Грынявіцкіх пацягнулі на вяроўках, а іншых пагналі за імі ў Бельск. Там, у турме, ужо сядзеў малодшы Грынявіцкі сын, гімназіст.

Толькі ў Бельску афіцэр схамянуўся, што ў мітусні яны забыліся на галаву царазабойцы. Ён зараз жа выслаў некалькі жандараў, каб прывезлі яе з Грынявічаў. Тыя абшукалі ўвесь двор і вярнуліся з пустымі рукамі. Узлаваны начальнік сабраў увесь узвод ды на яго чале паімчаўся ў Грыневічы. Там яны перакапалі ўсё сяло, пабоямі ды рознымі пагрозамі намагаліся дабіцца ў насельнікаў калі не галавы, дык хаця б звесткі, куды яна падзелася. Але ўсе кляліся, што ніякай галавы яны не бачылі і нічога пра яе не ведаюць. Гэтак па галаве і след прастыў.

Бацькоў і брата царазабойцы ўлады саслалі ў Сібір, і яны адтуль ужо не вярнуліся. Гаспадарку пераняла царская казна і запаўдарма распрадала суседзям.

На тым месцы, дзе калісьці стаяў двор Яўхіма Грынявіцкага цяпер пустэча. Толькі старыя людзі згадваюць, што іхнія дзяды казалі пра дзівосную вогненную кулю, якая напрадвесні вечарамі выкочвалася з колішняй Яўхімавай сялібы, сыплючы навокал ірдзістымі іскрамі, знікала на паплавах, што ля рэчкі Белай. Людзі, звочыўшы такое дзіва, размашыста хрысціліся ды маўлялі, што гэта галава царазабойцы ад жандараў уцякае.

**Пачуў і пераказаў Мікола Гайдук**

----------------

*/Ігнат Яўфімавіч Грынявіцкі 1 сакавіка 1881 г. ажыццявіў замах на цара Аляксандра II, у выніку цар быў забіты, а Грынявіцкі смяротна паранены.

# Белавежа ў паэзіі Алеся Барскага

*Працяг са стар. 1*

*Зразумець, што шчаслівы — бяздомны,*
*Пакланіцца таемным крыніцам,*
*І мурашкам, казяўкам і гномам.*
*Хай укорыцца дух перад Богам,*
*Які лесам завецца трывожным,*
*Пазволь, лесе, знайсці мне дарогу*
*Да сумненняў і да бездарожжаў.*
*Толькі грэшнасць і святасць у абдымцы,*
*І чартоўскай анёльскасці лёты.*
*Ткуцца вершы на кожнай галінцы,*
*Белавежа — зялёны наркотык.*

Нязвыклай сілай экспрэсіі, багаццем эмацыянальных напружанняў вылучаюцца тыя творы Барскага, у якіх прадстаўляе ён уласную жыццёвую дарогу, яго адлучэнне ад родных старон і вялікае жаданне вяртання дадому, да сваёй малой радзімы, на ўлонне лесу, Белавежскай пушчы. („Узняты сосны як бакалы", „Дзесь далёка за мною сяло", „Сумуючы", „Мой лесе — мой зялёны браце", „Белавежа — ты як малітва", „Белавежская радасць").

Вершы гэтыя па сутнасці з'яўляюцца падмацаваннем сцвярджэння, што ў містэрыі існавання чалавек — гэта пілігрым, вандроўнік. Адсюль лірычны герой гэтых твораў часта падарожнічае. Перамяшчэнне ў гарызантальнай прасторы — гэта дарога праз жыццё.

Аддаленне наводзіць успаміны. Месца, у якім ён жыў, акаймавала яго сваімі крыламі як найлепшая маці. Бачым таксама, што гэтая туга па пакінутым, рэальна існуючым і дарагім свеце агортвае душу героя галоўным чынам ноччу. Ноч, ейная атмасфера непасрэдна ўплываюць на інтэнсіфікацыю перажыванняў. З аддаленага горада, поўнага хаосу ён тужыць па белавежскім лесе, шуме дрэў, меланхалічным спакоі. Лірычнае „я" змагаецца не толькі з пустэчаю, але і з вялікім бязладдзем сучаснага свету. Ён адчувае сябе стомленым, нярэдка разрываным унутранымі супярэчлівасцямі, загубленым у свеце і космасе і ўвасабляе жывое адлюстраванне нашай цывілізацыі.

Белавежскім краявідам, вобразам зямлі, дрэў часта спадарожнічае міфічная рэфлексія. Рэальнасць гэтых пейзажаў становіцца, напрыклад у творы „Белавежа, ты, як малітва", мэтарэальнай, а часам звышрэальнай. Фантазія і ўява пераносяць іх як бы ў іншы памер — больш душэўны, чым фізічны. Пахі, барвы, гукі, напевы ветру ствараюць штосьці накшталт імпрэсіяністычнай імглы сенсуалізму.

Чытаючы творы Барскага прадстаўляючыя матыў Белавежы неаднакратна заўважаем, што ім часта спадарожнічае матыў песні. Белавежа аўтаматычна асацыруецца з песняй, а песня з'яўляецца плодам Белавежы. Бо па сутнасці ў самой пушчы музыкі нямала. Амаль усё ў ёй спявае, выдае гукі. Спяваюць птушкі, шапоча лісце, шумяць травы. А ўсе гэтыя слыхавыя элементы пераплятаюцца і складаюцца на адну вялікую песню — песню пушчы. Такія творы Барскага, як „Белавежа — анёлаў гурт", „Белавежа — зялёны гармонік", „Спявае пушча хваляй вонная" і „Гатоўнасць" умацоўваюць нас у перакананні, што Белавежская пушча ёсць маці песні — песні радаснай, перапоўненай духам любві да народа, песні шчырай.

*... Песні белавежскай нельга не паверыць*
*Песні белавежскай нельга не паслухаць...*
*(„Гатоўнасць")*

Белавежа, паводле Барскага, у яговым метафарычным прадстаўленні — гэта канцэртная зала са сваім хорам. Кожнае дрэва, кожны куст, кожны жыхар пушчы маюць свой абшар адказнасці, а ўсе разам ствараюць гармонію, непаўторны свет галасоў, гукаў. Лірычны герой у творах Барскага часта таму прыгаворвае, каб тут, у пушчы шукаць творчы запал, натхненне. Тут, у гэтай невычарпальнай скарбніцы прыгажосці.

*Белавежа — анёлаў гурт,*
*аб'яднанне манахаў зялёных*
*сход рымскіх калонаў,*
*лёгкакрылае зборышча муз.*
*Кожны клён, як віновы туз,*
*кожны дуб як суровы бог,*
*елка кожная, нібы посах.*
*У кожнай кроне канцэртны зал,*
*у кожнай зале звініць хор,*
*на галінах сто партытур,*
*у ляшчынах тысяча цішы,*
*у асінах тысяча бур,*
*у далінах тысяча згод*
*і столькі ж нязгод — авантур.*
*Стаіць задуменна бор*
*ад чорнай зямлі да звінячых зор,*
*мысліць...*
*Калі тваё сэрца пустое, паэт,*
*калі хтосьці скажа, што ты ўжо памёр,*
*прыходзь ты ў пушчу маёвым раннём,*
*з-пад дрэў назбіраеш нападаўшых зор,*
*і зноў у рады паэтычныя станеш.*

Чытаючы творы Барскага аб прыродзе ўражвае нас часта тэмпература твораў, іх дынамізм, неспакой агортваючы і сферу душэўнага жыцця, і цела. Гэта часта гарачая паэзія, поўная бляскаў свету, сакавітых фарбаў. З рэалістычных элементаў фарміруе паэт краявід, як са сну, як візуальную канкрэтызацыю меланхалічнай задумы вакол успамінаў. Адзінкавая сітуацыя вырастае па-за свае межы, абсалютызуецца і універсалізуецца. Часам набірае рысаў сімвала агульначалавечага характару. Барскі любіць паказваць прыроду не толькі ў субтыльных дэталях, гуках і руху, але таксама ў пераломных момантах, з якіх частым бываюць вечар („Вечар") і ноч („Ноч у Белавежы"). Вечар ёсць ажыўлены, персаніфікаваны. Прырода папаўняецца спакоем, над возерам узносіцца імгла. Паяўляюцца першыя зоркі, пануе цішыня, якая ўсё выпаўняе. Хаця здараецца таксама, што вечар, ноч напаўняюць лес трывогаю, неспакоем:

*Цішы не бывае ў пушчаных начах.*
*Зараз заіскрацца сцежкі баравыя,*
*І звярам напоўніць прагавітасць вочы,*
*Барацьбу-змаганне змрок рукой прыкрые.*
*(„Ноч у Белавежы")*

Заўважаем таксама ў творах Барскага як у маляўнічы, дынамічны спосаб пранізваецца ў пушчы стыхіі і з'явы, якія фарміруюць жыццё і адзінства прыроды, ейны дынамізм. Загадка стыхій, існаванне прыроды і чалавека займаюць важнае месца ў сусвеце аўтара. Гэтая часць космасу падлягае вечным законам руху ў часе і прасторы, і як аб'ект абсервацыі паэта трактаваная ёсць як маці.

Белавежа паказаная ў дэманічным танцы маланак, перапоўненая сілаю грымотаў, вобразы рысуючыя пушчу пранятую неспакоем і трывогаю, вобразы дрэў дрыжачых ад страху, абвеяных неспакоем ветру дазваляюць дайсці да вываду, што аўтар бачыць свет не статычна і аднабакова, але ў руху, у ігры супрацьлегласцей, яго ўвагу канцэнтруе на сабе амбівалентнасць гэтых з'яў.

Прырода Белавежскай пушчы ёсць для Барскага чымсьці большым, чым толькі маляўнічая сцэна. Гэта месца звышчасовай свабоды і вечных вартасцей. Гэтыя вартасці ён бачыць таксама ў людзях Белавежы, якія жывуць або жылі ў блізкасці Белавежскай пушчы. Такія творы Барскага як „Белавежскія хлопцы", „Цябе стварыў Бог" ці „Аднавясковым паэтам" паказваюць нам душы і характары людзей гэтага рэгіёна. Аўтар прыпісвае ім самыя каштоўныя вартасці — лірызм і чуллівасць душ, уражлівасць на навакольную прыгажосць, радасць жыцця, працавітасць, любоў да зямлі, да песні, цэласнае ўз'яднанне з прыродаю.

*Нашы сэрцы ўжо не расстануцца,*
*З пушчанымі барамі, пралескамі,*
*З імі разам мы ноччу і раніцай —*
*Вось якія хлопцы белавежскія!*
*(„Белавежскія хлопцы")*

На канец трэба заўважыць, што лірызм у прадстаўленых тут вершах карыстаецца перад усім вобразам, настроем, ролю пазнавальнага элемента паэт моцна рэдукуе. Яго паэтычная радзіма знаходзіцца на мяжы свету чалавека і свету прыроды. Таму вершы гэтыя адначасова заваражваюць стыхійнасцю свайго лірызму і часам ударают недахопам глыбейшага зместу. Бачым, што паэту цяжка правесці селекцыю сваіх твораў, вылучыць са сваіх зборнікаў вершы яму блізкія, хаця слабейшыя ў сваім мастацкім узроўні. Гэта аднак рыса спантаннай творчасці, падатак ад аўтэнтычнасці паэтычнага матэрыялу. Хто чэрпае з канкрэтных дасведчанняў, таму няпроста ад іх адарвацца, глянуць цалкам аб'ектыўна на гатовы ўжо твор. Але такой трэба прыняць гэтую паэзію, з усімі ейнымі недахопамі і дасягненнямі.

*Дзесь далёка за мною сяло,*
*дзе калыску дашчэнту праплакаў,*
*там чакае мяне жнівень слоў,*
*паэзія — верны сабака.*
*Тры бярозы, як ветразі тры*
*у хвалі сонца закінулі якар*
*я прыходзіў да іх на зары*
*то пакутнікам, то зноў гулякам.*
*Белавежа!*
*Ты мой акіян,*
*апускаю пяро, як вясло,*
*з гарадоў да цябе плыву я,*
*каб сабраць урадлай —*
*жнівень слоў.*

**Бэата Капій**

# Што з Гданьскім аддзелам БГКТ?

Фармальна Гданьскі аддзел БГКТ існуе, але на практыцы Галоўнае праўленне Таварыства ставіцца да яго адмоўна.

Часта чытаем у „Ніве" заклікі чытачоў да беларускіх дзеячаў, каб перасталі сварыцца, прынамсі публічна. Але як можна ацаніць тое, што зрабіла Галоўнае праўленне БГКТ у 1992 годзе, калі аднабакова, без паведамлення нас тут у Гданьску, у адзін дзень скасавалі дагавор са Збожжавым прадпрыемствам у Гданьску аб найме памяшкання пры Доўгім Таргу 8/10. Калі дагавор быў скасаваны, мы, значыць Гданьскі аддзел БГКТ, мусілі дзесьці ўладкавацца. Мы як мы, але трэба было забяспечыць маёмасць: бібліятэку, крэслы, мэблю, электроннае абсталяванне і ўсе іншыя прадметы, якія былі ўласнасцю БГКТ. Царква адмовілася прыняць нас, бо яна звышнацыянальная, хаця беларусы складаюць большасць прыхаджан. Багатых спонсараў, якія маглі б прыняць нас пад свае крылы, няма. Галоўнае праўленне Таварыства рукі ўмыла, праблема, прынамсі для ГП, знікла. Няхай кожны жыве па-свойму, але чаму трэба было касаваць дагавор, калі Украінскае таварыства засталося ў памяшканнях пры Доўгім Таргу ў Гданьску да сённяшняга дня? А праблему мае ўлада, а не Украінскае таварыства. У беларусаў сталася наадварот.

Праўда, пры вялікім намаганні мы знайшлі памяшканне, забяспечылі маёмасць і стварылі нейкія ўмовы для існавання культурнай арганізацыі. Справа заключаецца ў тым, што памяшканне з'яўляецца ўласнасцю горада (тое пры Доўгім Таргу было дзяржаўнае), якому праблемы меншасцей і то такіх беднякоў як беларусы, абыякавыя. І тут мы чакалі дапамогі з боку Галоўнага праўлення БГКТ. Якой дапамогі? Прынамсі фармальнай, калі не матэрыяльнай. Нешта ж трэба зрабіць з грамадскай маёмасцю, якая знаходзіцца ва ўладанні Таварыства, а не Гданьскага аддзела. Фармальна, дарагія сябры з ГП, распусціце Гданьскі аддзел, згодна са статутам, так як фармальна і хутка скасавалі дагавор са Збожжавым прадпрыемствам. Мала таго, што зусім не цікавіцца нашай сітуацыяй Генеральны консул Рэспублікі Беларусь, — і гэта зразумела, бо дапамагчы ён не можа, — то цяпер, пасля рэферэндуму, адказваецца ад нас і старшыня ГП БГКТ. Але праблема ёсць. Нешта з памяшканнем пры Альжбятанскай 10/11 у Гданьску, дзе актуальна мае сядзібу Аддзел, зрабіць трэба. Мы тут прынамсі будзем ведаць на чым стаімо.

**Г. Глагоўская,**
**М. Куптэль**

# ТРЫУМФ ПРУЖАНСКАГА ПАЭТА



У Злучаных Штатах Амерыкі гадоў пяць існуе Міжнароднае таварыства паэтаў (МТП), пішучых на англійскай мове. Складаюць яго паэты з сямідзесяці краін. Між імі праводзяцца конкурсы ды прысвойваюцца ўзнагароды. Дык вось вядомы нашым чытачам **Сэрафін Корчак-Міхалеўскі** тройчы даслаў свае англамоўныя вершы, якія апынуліся ў першым дзесятку самых лепшых твораў. Старшыня МТП прысвоіла яму званне Заслужанага паэта 1995 года самага вялікага ў гісторыі свету таварыства.

У жніўні пачаўся ў Вашынгтоне штогодні з'езд МТП. У гасцініцы Хільтан сабралася тысяча паэтаў, выдаўцоў ды рэдактараў. 4 жніўня, а гадзіне 20.30 наш паэт выйшаў на эстраду і старшыня МТП прадставіла яго ўсім прысутным. Лазерны прамень выпісаў прозвішча лаўрэата на століі. Яго вершы былі ўжо выдадзены ў форме альбома з касетамі. Яго дыплом напісаны быў спецыяльнымі ўзорамі ды ўпрыгожаннямі на таблічцы. Наш пясняр чытаў свае вершы сам перад адборнымі крытыкамі. Раней або пазней вершы песняра будуць перакладзены на польскую мову. Пакуль што, вось аўтарскі пераклад з польскай мовы аднаго верша:

**Да Леапольда Стафа**

Пастух ты слоў багатых,
здароў будзь, дружа дум,
бо твайго сцягу шум
дайшоў да маёй хаты.

Да стомленага станнем
дайшоў твой гучны тон
нібы пасхальны звон
звяшчаючы заранне.

На ростані блукаю,
шукаю братніх душ,
да новых, бач, катуш
спяваю аб Выраю!

Некаторыя навуковыя брашуры паэта магчыма знайсці ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве ды ў бібліятэцы Польскай акадэміі навук у Палацы культуры і навукі, а ўсе яны знаходзяцца ў бібліятэцы Венгерскай акадэміі навук у Будапешце.

**(СКМ)**

# 10-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Матф., 17; 14-23)*

У 10-ю нядзелю пасля Пяцідзесятніцы чытаецца ўрывак з 17-га раздзела Евангелля паводле Матфея. У ім гаворыцца пра аздараўленне Хрыстом маладога, апантанага хлопца. Апосталы не здолелі аздаравіць яго, у сувязі з чым Настаўнік папракнуў іх за нявер'е. Недахоп веры і руплівасці ў працы, якая ім даручана, стаў прычынай няўдачы. Гэта быў павучальны ўрок на будучыню. Іхняя вера павінна была ўмацоўвацца праз малітву, пост і пакорлівасць сэрца. Прытым яны павінны былі адмовіцца ад усякага славалюбства, каб стацца толькі прыладамі ў Божых руках.

У сувязі з гэтым апавяданнем узнікаюць думкі пра службу, пра сціпласць і адказнасць. Кожны чалавек павінен ведаць сваё месца, належна ацэньваць свае магчымасці і адказна ставіцца да сваіх абавязкаў. Адпаведная ацэнка свайго прызвання шмат каму дазволіла б пазбегнуць асабістага расчаравання і шкоды ўчыненай грамадству. Людзі часта бяруцца за працу, да якой яны не прызваны. Нездаровыя амбіцыі і славалюбства часта бяруць верх над цвярозай ацэнкай сваіх магчымасцей.

У лісце да Карынфянаў апостал Павел пісаў: „Ці ж усе апосталы, ці ж усе прарокі, ці ўсе настаўнікі, ці ж усе маюць уладу аздараўлядзь?" Не зважаючы на свае бясспрэчныя здольнасці і поспехі, ён сціпла заяўляў: „Я найменшы з апосталаў; я нават не годны называцца ім". Службу сваю аднак ён разумеў так як трэба. „Будучы вольным ад усіх, — пісаў ён, — я падняволіў сябе ўсім, каб больш прыдбаць... не шукаючы ўласнай карысці, але рупячыся пра многіх, каб усе былі збаўлены".

Кожны чалавек можа адносна добра выконваць некалькі прац, аднак найлепш можна выконваць толькі нейкую адну. Кожны атрымаў нейкі дар, нейкую здольнасць, якая адначасова з'яўляецца заданнем. Некаторыя бацькі прымушаюць сваіх дзяцей вучыцца на адвакатаў або лекараў, бо гэта прэстыжныя прафесіі. Бывае, што зусім немузыкальнае дзіцё бацькі прымушаюць іграць на скрыпцы або піяніна, бо кар'ера віртуоза, выдатнага артыста — гэта нязздзейсненая мара іх саміх. Такія дзеці, насуперак сваім здольнасцям і зацікаўленням, ніколі не будуць добрымі лекарамі або мастакамі, а маглі б быць, напрыклад, добрымі рамеснікамі.

З другога боку кожная здольнасць дадзена з нейкай мэтай; не дзеля таго, каб хваліцца ёю або карыстацца выключна для сваёй выгады. Некаторыя людзі вераць у сваю незаменнасць. Яны лічаць, што для дабра справы нельга ім адмаўляцца ад пасады, што без іх усё развваліцца. У сваіх старэчых руках зайздрасна трымаюць стырно кіравання дзяржавай, Царквою ці нейкай іншай установай. Яны не хочуць зразумець, што такім чынам яны служаць свайму дабру, але справе, якой нібыта служаць, несумненна шкодзяць.

Тройчы герой былога Савецкага Саюза Леанід Брэжнеў пад цяжарам медалёў на старасць ледзве рухаўся і з цяжкасцю гаварыў. Яго аднак літаральна і маральна падтрымоўвала хеўра падлізнікаў, якія пра народ руліліся гэтулькі, колькі сам Леанід Ільіч. Яны дбалі перш за ўсё пра свае пасады і таму ніякія змены ім не былі патрэбныя.

На свеце ўсё менш дыктатараў і культаў адзінкі, аднак застаецца дастаткова людзей на высокіх пасадах, якія лічаць, што не яны павінны служыць народу, але народ ім. Інакш разумеў прызванне і свае абавязкі слаўны генерал Мантгомеры. Гэты вопытны камандзір гаварыў, што якраз штаб і камандзіры павінны служыць войску, а не наадварот. Каб гэтак думаць, трэба быць не толькі добрым генералам, але перш за ўсё разумным чалавекам. Пераацэньваючы свае заслугі, чалавек непазбежна трапляе ў сетку свайго зазнайства.

Падчас сваёй апошняй паездкі ў Еўропу вядомы індыйскі палітык і духоўны правадыр народа Махатма Гандзі сустрэўся са студэнтамі. У адказ на іхняе цёплае прывітанне ён сказаў: „Сёння я адчуваю сябе сярод вас студэнтам нават болей, чымсьці вы. Меназіта таму, што лепш за вас усведамляю колькі рэчаў яшчэ не ведаю і колькі трэба мне яшчэ вучыцца".

Амаль дзве тысячы гадоў таму Апостал Павел напісаў: „Калі камусьці здаецца, што ён нешта ведае, дык ён яшчэ нічога не ведае гэтак, як павінен ведаць". Усведамленне сабе таго, што „не маем нічога, чаго не атрымалі б, і што ўсё з'яўляецца Божым дарам, а чалавек — толькі прыладаю ў Божых руках", з'яўляецца галоўнай думкай Евангелля 10-й нядзелі пасля Пяцідзесятніцы.

**а. Канстанцін Бандарук**



*Уваскрэсенская царква ў Бельску-Падляшскім.*
**Графіка Барыслава Рудкоўскага**

## У Відаве абгарадзілі могілкі

Міхась Верамяюк з Іванам Себясевічам і Уладзімірам Белаказовічам згаварыліся выйсці з ініцыятывай абгарадзіць могілкі ў Відаве, каб выглядалі як у цывілізаваным свеце. І так пачалося: салэцкая рада адвяла 59 мільёнаў на гэтую мэту, а ўсе жыхары складаліся па два мільёны і так назбіралі 260 мільёнаў. Высеклі ўсе карчы і непатрэбныя дрэвы. Цяпер канчаюць стаўляць плот; пайшло на гэты плот 14 тон цэменту. Найбольш ахвярна пры парадкаванні могілак працавалі Міхась Верамяюк, Іван Себясевіч, Іван Барысюк, Міхась Мароз, Васіль Фірсовіч, Пётр Бебель і Юрка, Васіль, Андрэй і Мікалай Белаказовічы. Цяпер здалёк нашы могілкі выглядаюць цудоўна, аж хочацца на іх ляжаць.

**Андрэй Гаўрылюк**




ARTYMOWICZ Nadzieja: Nad antykwariami wypowiedzianych słów (w). Tł. Czesław Seniuch. *Magazyn Literacki* 1993, nr 5, s. 33.

BARSZCZEWSKI Aleksander: Arkadia czy pogranicze w ogniu? Rozm. przepr. Tomasz Szczepański. *Magazyn Literacki* 1993, nr 5, s. 35-39.

BEZIUK Alžbieta: Białoruska niewiadoma: wybory prezydenckie'94. *Eurazja* 1994, nr 3/4, s. 124-126.

BOČKOWSKA Maryla: Rock bez kompleksów. Gródek Basowiszcza'95. *Gazeta w Białymstoku* 17.07.1995 r., nr 164 (936), s. 4.

BLUSZCZ Andrzej, PAZDUR Mieczysław F.: Datowanie metodą termoluminescencji zabytkowej ceramiki z grodziska w Haćkach na Podlasiu. *Zeszyty Naukowe. Matematyka-Fizyka Politechnika Śląska,* Gliwice 1993, z. 70, s. 47-67. Res. Sum.

BRATKIEWICZ Jarosław: Stosunki z Rosją, Ukrainą i Białorusią. *Rocznik Polskiej Polityki Zagranicznej* 1993/1994, s. 127-134. Toż. w wersji angielskiej.

BURZYŃSKI Jan: Świadomość narodowa młodzieży szkół średnich Białej Podlaskiej i Brześcia: analiza porównawcza. *Rocznik Bialskopodlaski* 1994, t. 2, s. 205-222. Sum.

CHOŁODOWSKI Maciej: Konsul równy ambasadorowi. Pierwsza konferencja Michaiła Slemniowa (konsula generalnego Republiki Białoruś w Białymstoku). *Gazeta w Białymstoku* 4.07.1995 r., nr 153 (925), s. 2, foto.

Čykvin Jan: Pies na kury; ... i, zda się, tylko patrzeć jak rozbłysku; Modlitwa (ww). Tł. Czesław Seniuch. *Magazyn Literacki* 1993, nr 5, s. 30-31.

GOMÓŁKA Krystyna: Między Polską a Rosją — Białoruś dawniej i dziś. *Biuletyn Naukowy. Akademia Rolniczo-Techniczna w Olsztynie* 1994, nr 1, s. 187-199.

HAJDUK Uładzimir: Błękitny wyraj (w). *Magazyn Literacki* 1993, nr 5, s. 34.

HRYWNA Igor: Konflikt białorusko-ukraiński na Podlasiu? *Biuletyn Naukowy. Akademia Rolniczo-Techniczna w Olsztynie* 1994, nr 1, s. 165-171.

JANOVIČ Sakrat: Pogranicze nie jest nieszczęściem. Rozm. przepr. Tomasz Szczepański. *Magazyn Literacki* 1993, nr 5, s. 19-26.

(jen): Mniej ważne symbole. Konsul Generalny Białorusi w Białymstoku. *Kurier Poranny* 4.07.1995 r., nr 150 (1453), s. 3, foto.

JAROSZEWICZ-PIERESŁAWCEW Zoja: Białoruskie środowisko literackie w Polsce i jego związki z Białorusią. *Biuletyn Naukowy. Akademia Rolniczo-Techniczna w Olsztynie* 1994, nr 1, s. 201-208.

KOŁODZIEJCZYK Arkadiusz: Podlasie w pracach historycznych i publicystycznych Józefa Łoskiego. *Rocznik Bialskopodlaski* 1994, t. 2, s. 161-178.

LAVROVSKA Irina: Zabytki Brześcia. Tł. Grzegorz Michałowski. *Podlaski Kwartalnik Kulturalny* 1992, nr 1, s. 46-51.

MACH: Nazwy o wymiarze politycznym. Janowicz odpiera ataki "S". *Gazeta w Białymstoku* 10.07.1995 r., nr 158 (930), s. 3.

MARTYNIAK Henryk: Pogoń za sierpem i młotem (porozumienie wojskowe z Rosją). *Polityka* 1995, nr 10, s. 13.

Mironowicz Eugeniusz: Białorusini w Polsce 1944-1949. Warszawa 1993; Rec. WASILUK Jerzy, *Pogranicze* 1994, t. 4, s.155-166.

(mp): Droga ku wzajemności. Polsko-białoruska konferencja w Białowieży. *Gazeta Współczesna* 11.07.1995 r., nr 132 (13284), s. 6.

NIKITOROWICZ Zbigniew: Językowe Geniusze. Dotychczas mieszkańcy tylko jednej wioski w woj. białostockim przystali na powrót do jej historycznej białoruskiej nazwy. *Kurier Podlaski* 30.06.1995 r., nr 146 (3074), s. 4, il.

(nik): Prowokacyjne nazewnictwo? *Kurier Podlaski* 8-9.07.1995 r., nr 153 (3081), s. 2.

(nik): Ekumenizm bez przetargów (spór o klasztor w Supraślu). *Kurier Podlaski* 8-9.07.1995 r., nr 153 (3081), s. 2.

(nik): Wianki tożsamości. Noc Kupały to również święto miłości. (Konferencja "Droga ku wzajemności"). *Kurier Podlaski* 10.07.1995 r., nr 154 (3082), s. 1, 6-7, il.

NOVIK Uładzimir: Policzmy to jeszcze raz — białoruski bilans (stosunki gospodarcze z Rosją): czerwiec'94. Tł. z ros. Anna Naumczuk, Eugeniusz Badowiec. *Eurazja* 1994, nr 3/4, s. 63-67. Sum.

OLSZAŃSKI Tadeusz Andrzej: Mniejszości narodowe w społeczeństwie polskim, *Magazyn Literacki* 1993, nr 5, s. 15-18.

PAZDUR Mieczysław F., AWSIUK Romuald, GOSLAR Tomasz, PAZDUR Anna: Chronologia radiowęglowa stanowiska w Haćkach na Podlasiu. *Zeszyty Naukowe, Matematyka-Fizyka Politechnika Śląska,* Gliwice 1993, z. 70, s. 27-46. Rez. Sum.

PIŁAT Walenty: Franciszek Bohuszewicz jako prekursor nowej literatury białoruskiej. *Biuletyn Naukowy. Akademia Rolniczo-Techniczna w Olsztynie* 1994, nr 1, s. 209-214.

(PODEMSKI Stanisław) Stan P.: Rzym jest daleko (spór o klasztor w Supraślu). *Polityka* 1995, nr 26, s. 27.

SAČKO Zosia: Boję się spokoju, który nie podnieca; Niespokojne sny (ww). Tł. Czesław Seniuch. *Magazyn Literacki* 1993, nr 5, s. 32.

SENIUCH Czesław: Białoruś — krajobraz polityczny. *Biuletyn Naukowy. Akademia Rolniczo-Techniczna w Olsztynie* 1994, nr 1, s. 173-177.

SUCHOPAR Uładzimir: Biblioteka w Brześciu a polska kultura. Tł. Grzegorz Michałowski. *Podlaski Kwartalnik Kulturalny* 1992, nr 1, s. 41-45.

ŠUŠKIEVIČ Stanisłaŭ: Malejące szanse (sytuacja polityczno-gospodarcza). Rozm. przepr. Jan Strzałka. *Tygodnik Powszechny* 1995, nr 11, s. 7.

SZCZEPAŃSKI Tomasz: Instytucje kulturalne mniejszości narodowych. *Magazyn Literacki* 1993, nr 5, s. 27-29.

ZABŁOCKI Uładzimir: Sprawa dla prokuratora (polityka gospodarcza rządu W. Kiebicza). Tł. z ros. Anna Naumczuk. *Eurazja* 1994, nr 3/4, s. 67-69. Sum.

**P. C.**

# ХАЦЯ Б ДЗВЕСЦЕ...

Паводле сучаснае навукі, чалавек у аптымальных абставінах павінен жыць на нашай планеце не меней ста пяцідзесяці гадоў. А гэта, што ён жыве найболей каля ста (па-за Грузіяй вельмі яно рэдка здараецца), гэта вынік нерацыянальнага харчавання, спосабу жыцця, стрэсаў, забруджанага паветра і гэтак далей, уключна з тытунём і гарэлкай. У кожным выпадку, каб чалавеку стварыць ідэальныя ўмовы, то ён цешыўся б зямным жыццём аж 150 гадоў.

Калісьці я даведаўся, што ў вёсцы Навасёлкі Гарадоцкай гміны жыве чалавек, якому ўжо сто два гады і які яшчэ рубае дровы ды часта харчуецца салёнымі селядцамі. Гэта мяне зацікавіла і я вырашыў у адзін прыгожы чэрвеньскі дзень наведаць яго. Уваходзячы на панадворак, я ўбачыў старэнькую бабульку, якая ў кошык клала палены на дрывотні. Аказалася, што гэта жонка даўгавечнага пана Маліноўскага, і што ёй усяго толькі 75 гадоў.

Паставіла пані Валянціна дровы ля парога і запрасіла мяне дахаты. Калі я ўвайшоў у іхнюю сціплую кухню, убачыў чалавека, якому не даў бы болей, чым восемдзесят. Старычок усміхаўся толькі на мае прывітальныя ветлівасці і адразу мне стала ясна, што ён глухі. Гэта, як аказалася, адзіны ягоны манкамент на сто другім годзе жыцця. Пані Валянціна сказала, што ў яе мужа вельмі слабы слых і трэба крычаць, ды сама адазвалася да яго:

— Пан пытаюць, як цябе завуць?

— А, мяне зваць Іван Міхайлавіч Маліноўскі. Я праваслаўны, толькі фамілія польская.

— А з якога вы года нараджэння? — крычу я.

— Я нарадзіўся 15 верасня 1893 года.

— А як вы сёння сябе адчуваеце, бо я прыехаў з вамі пагутарыць і мо нешта ў „Ніву" напісаць.

— О, я адчуваю сябе добра і ўсё памятаю з трэцяга года жыцця.

Тады прыселася між намі ягоная жонка Валянціна і „перакладала" з беларускага на гучнае наша, выручаючы мяне ад крыку.

— Як прабягала вашае жыццё?

— Я тут жыў ад роду да 1940 года, пакуль не вывезлі ў Сібір.

— А за што вас павезлі аж у Сібір?

— За зяця, які займаўся нейкай палітыкай супраць савецкай улады, а я нічога аб гэтым не ведаў.

— Дзе канкрэтна вас завезлі?

— Петрапаўлаўск, Казахстан. Вывезлі нас зімою, недзе пад весну, бо якраз на праваслаўны Вялікдзень мы аказаліся ў Казахстане. А было і сумна, і страшна, і галадна.

— А што вы тамака рабілі?

— Працаваў у лесе, але аднойчы зімою паехаў малаціць у іншы калгас і там вельмі празяб, дык адняло мне ногі. Па такой прычыне я стаў рыбаловам у рыбным прадпрыемстве гэтага калгаса, у якім раней рубаў лес.

— Колькі вы там зараблялі?

— Плацілі прадуктамі, грошай не давалі. Яшчэ мусіў плаціць налог за праданую калгаснікам рыбу. Але там было мне нядрэнна, бо далі мне лодку, вопратку і нават валёнкі. Лавіў рыбу, прадаваў і жыў. Наш мужык нідзе не загіне, каб толькі крыху давалі чаго паесці.

— Як доўга вы там былі?

— Да 1945 года, значыць у сорак пятым годзе вярнуліся мы дамоў.

— Ці вы там былі з сям'ёй?

— Так, з жонкай і трыма дачкамі.

— А што вы рабілі да першай сусветнай вайны?

— Я ўсё сваё жыццё, за выключэннем ссылкі ў Казахстан, працаваў на гаспадарцы. У першую сусветную быў прызваны ў армію, але не прынялі мяне, бо мей тупаватаы слых.

— Пасля вяртання з Казахстана вы таксама займаліся толькі гаспадаркай?

— Так, займаўся гаспадаркай.

— А колькі ў вас зямлі?

— Чатыры гектары з лесам і пашай.

— І вы на гэтым выжылі з сям'ёй?

— Да вайны дарабляў крадзяжом лесу, які прадаваў у Беластоку.

— А як вы гэты лес вазілі ў Беласток?

— Нармальна, канём.

— А добра зараблялі на гэтым „інтарэсе?

— Па-рознаму, але таксама з гэтага не выжыў бы, каб не гаспадарка, адно другім папаўнялася. Жыды мала плацілі.

— Ці вы належалі калі-небудзь да нейкае партыі?

— Не, нікуды не належаў.

— У чым заключаецца сакрэт вашай даўгавечнасці?

— Не п'ю і не куру ўсё жыццё, жыву нармальна як усе, але шчыра малюся і веру, што пры жыцці мяне трымае Сіла Гасподняя.

— А якая ў вас пенсія? Ці можна за яе пражыць?

У тым месцы пані Люба ўжо не крыкнула мужу ў вуха, а толькі сама адказала:

— Жывецца нам сярэдне, мусім за ўсё плаціць, не маем тэлевізара, бо не хачу слухаць таго, што яны гавораць. Маем толькі радыёпрыёмнік і найбольш слухаем малебнаў.

— А я чуў, што ваш муж яшчэ сам патрапіць нарубаць дроў?

— Не, мы да ўсяго наймаем людзей. Дровы прывозяць і рубаюць суседзі. Не маем ніякае жывёлы, адно толькі некалькі курак.

— А ці гэта праўда, што ваш муж аддае перавагу салёнаму селядцу, а не піражнаму?

— Хто вам гэта сказаў? Гэта няпраўда, — абразілася пані Валянціна.

— Цяпер вы жывяце са сваёй жонкай Валянцінай? — зноў я выкрыкнуў гаспадару ў вуха.

— Так, Бог даў, што маю такую добрую жонку, якая апякуецца мною ўжо 45 гадоў. Калі б не яна, я ўжо і не жыў бы. Яна вельмі гаспадарная, чуллівая і мною даражыць.

— Ну, дзякую вам за размову і жадаю хаця б дзвесце здаровых гадоў!

— А я вам жадаю маіх гадоў у вашым здароўі, — адказаў сімпатычны дзядуля.

**Васіль Петручук**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка XXII

У развабжаннях бацькі аб радзіме знайшліся цікавыя рэмінісцэнцыі аб польска-бальшавіцкай вайне і аб звязаных з ёю адносінамі аднаго і другога боку канфлікту да Беларусі. Агульная інтэнцыя гэтых меркаванняў такая, што палякі і рускія ў аднолькавай ступені не лічыліся з нацыянальнымі імкненнямі беларусаў:

„Калі ты хочэш, то я яшчэ магу табе сказаці, што з тае хвальбы Троцкаго аб тым, што красныя коннікі ні затрымаюцца ні перад рэчкамі, ні перад горамі, ні перад акіянамі то нічого ні вышло і так ён і ні стварыў аднае родзіны для ўсяго пралетарыяту на свеці. То бачыш, яны ні толькі не дайшлі да акіяну, але і Віслы не змаглі перайсці і мусілі ўцікаці назад. Ну, але тут трэбо сказаці, што з пачатку Пілсудзкі напаў на Леніна і памалаціў яго ў Беларусі і на Украіні. После зноў Ленін пахвастаў Пілсудзкаго і запер яго пад Варшаву. А ў канцы зноў Пілсудзкі даў па шапцы Ленінаві і адагнаў яго пад Мінск. От яшчэ табе хачу пры гэтым сказаці, што я тады служыў у жалезнадарожнай ахрані ў Маскве і нас чуць-чуць ужэ ні знялі з жалезнае дарогі і ні пагналі на польскі фронт. Але ні ведамо чаму пакінулі. А от Міхась Казберук, наш сваяк з Бандароў, той папаў на польскі фронт і быў пад Варшаваю цяжко ранены і да канца жыця лічыўсе інвалідом. Ты ж яго напэўно помніш? Ну што тады гаварылі бальшавікі аб Беларусі: крычалі, што палякі навалілися на яе навалаю і што хочут у Беларусі ўстанавіці ўласць буржуяў і памешчыкаў. Крычалі яшчэ, што Беларусі ні можно пакінуць у бядзе і трэбо ёй памагчы ў вайне з палякамі.

Ну, ведомо, што я жывучы ў Маскве ні знаў, што тады аб гэтым дзелі гаварылі палякі. Але калі ўжэ ў 1922 року вярнуўся ў Бандары, то даведаўся, што палякі таксама крычалі тое самэ... Яны верашчалі, што бальшавікі навалілісе на Беларусь і што хочут яе ўзяці ў руску ніволю. Ну і, значыцца, Польшча мусіт памагчы беларусам адбіцца ад бальшавікоў, каб стацца свабодным гасударством. А знаеш як усё гэто скончыласё? А скончыласё так, што калі Ленін і Пілсудзкі ўбедзілісе, што далей ужэ ваяваці ні могут і ні могут адзін другого пабедзіці, то спаткалісе на мірных перагаворах у Рызе. І што ты думаеш, як паступілі гэты прыяцелі Беларусі? А паступілі так, што як прыехалі да іх прадставіцелі Беларусі, каб, значыцца, сказаці аб сваіх патрэбах і каб даць свабоду беларускаму народу, то Ленін і Пілсудзкі паказалі ім хвігі і выперлі за парог. От табе і маеш руску і польску помач! І што яны зрабілі? А ўзялі і падзялілі пачці што на роўны палавіны Беларусь, правялі граніцу і давай заводзіць з аднаго боку рускі, а з другого боку польскі парадкі. Душылі беларускі народ як толькі хацелі. Ну але аднэ дзело то зрабілі добрэ. Дагаварылися, што ўсе бежанцы могут варочацца дахаты. От таму мяне звольнілі з ахраны і я прыехаў у Бандары. Ты знаеш, што я нават рэвальвер прывёз і трымаў яго можэ так лет пяць. А после мне ўжэ надаело з ім хавацца то я занёс яго ў поле і закапаў пад мяжу. Ён там і згніў, ржа з'ела. Як у 1939 року ў нас зрабілі калёніі і загорвалі межы, то Езыб Міруць яго выгараў але ён быў цэлы ў дзірах, змарнаваўсе ў зямлі.

Ну, то значыцца, я рваўся на родзіну і пасля васьмі лет разлукі ўрэшце яе пабачыў, гэту родзіну. Хата наша развалілася, хлеў і клуня засталіся, але зусім былі раскрыты, бо бачыш, тыя суседзі, што не падалісе ў бежанство абскублі салому на падсцёл. Вышкі і памост у клуні парэзалі суседзі на опал. Ты знаеш, калі я гэто пабачыў, то ў мяне штось абарваласё і нават шкадаваў, што вярнуўся, бо ў той Маскве, хаця ў бядзе, але так сяк чыпеў, а тут ні кала, ні двара. І што ж, узяўся за работу хоць ад яе за восем лет адвык. Гавару, значыцца, аб мужыцкай рабоце, аж восем лет ні трымаў у руках ні касы, ні плуга. Трэбо было аднова вучыцца. Збожа ні было каб пасеяць, бульвы, каб пасадзіць, каня і плуга, каб загараць, сярпа і касы, каб жаці або касіці. Ну і тады то сабе чалавек думаў, што тая родзіна, катора так часто снілася гэто сплашное нішчасце. Ну, што тады ратавало? Грыбы і рыба. Грыбоў было толькі, што як я пашоў у хваіну, то назбіраў цэлы шынель, бо, бачыш, я ў шынелі і ў мундзіры вярнуўся, другое адзежы ні меў. Ні знаю дакладно, але найменш то я можэ семсот баравікоў назбіраў, а браў толькі маленечкі. Ну і рыбы было поўно. Якімсе чудом астаўсе паломаны сачок, то я яго падладзіў і без труду мог налавіць, калі хацеў, кошык рыбы. От гэты грыбы і рыба і ратавалі ад галоднае смерці ў гэтуй новуй родзіні, што нам Пілсудзкі даў".

**Алесь Барскі**



**Jan Syczewski, przewodniczący BTSK protestuje**

## Kto pilnuje siana?

**Pierwszy program tv dla mniejszości białoruskiej jeszcze nie powstał, a już zaczął dzielić. Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne obawia się, że audycje będą tendencyjnie przedstawiać jego działalność. Powód? W ich tworzeniu uczestniczą głównie działacze konkurencyjnego Związku Białoruskiego w RP.**

— Jesteśmy niezadowoleni, ponieważ tworzenie programów odbywa się poza naszymi plecami — mówi Jan Syczewski, przewodniczący BTSK.

Jako przykład podaje ostatnią wizytę w Białymstoku Janusza Daszczyńskiego, wiceprezesa TVP S.A. d/s ośrodków regionalnych. Była ona związana z tworzeniem się OTV Białystok. W czasie wizyty J. Daszczyński rozmawiał m.in. z przedstawicielami mniejszości narodowych. Na spotkaniu zabrakło jednak przedstawicieli BTSK.

— J. Daszczyński spotkał się tylko z przedstawicielami Związku Białoruskiego w RP — mówi J. Syczewski. — Były już nawet rozmowy o obsadzie redaktorskiej.

Obydwie organizacje: BTSK i ZBwRP, nie darzą się sympatią. Pierwsza ma rodowód peerelowski i jest posądzana przez swoich oponentów o sympatie prokomunistyczne. Druga natomiast skupia młodych działaczy, często antykomunistycznych. Stąd też J. Syczewski obawia się, że Związek Białoruski będzie za pomocą telewizji niekorzystnie przedstawiał weteranów z BTSK. Jego zdaniem przykładem takich tendencyjnych publikacji są niektóre artykuły w "Niwie" i "Czasopisie", tworzonych głównie przez "młodych". Zaprzecza temu działacz ZBwRP Jerzy Kalina:

— To śmieszne, że zakłada się ad hoc, iż programy, których się jeszcze nie widziało, będą złe.

J. Kalina zapewnia również, że audycje będą miały charakter informacyjny. Jako przykład podaje zawartość programu, który zostanie nadany 6 sierpnia. Znajdą się w nim m.in. informacje o: organizowanym przez BTSK festiwalu "Białystok—Grodno", przedszkolach białoruskojęzycznych oraz zostanie zaprezentowana gmina Gródek.

J. Kalina dodaje przy tym, że białoruscy dziennikarze jedynie współpracują z ekipą TKK i nie mają żadnych etatów. Ich uczestnictwo jest tylko wynikiem ponadpółrocznych starań ZBwRP o stworzenie telewizyjnych programów dla mniejszości.

— Postawa BTSK jest postawą psa, który pilnuje stogu siana — komentuje J. Kalina. — Sam nie zje, a krowy też nie dopuści.

J. Syczewski zapowiada, że BTSK wystosuje oficjalne pismo do Zarządu TVP S.A. z prośbą o uwzględnienie swoich postulatów. Jeśli nie przyniesie ono pożądanych efektów, J. Syczewski zapowiada, że odwoła się wyżej.

(nik)

*"Kurier Podlaski", nr 174 z 2 sierpnia 1995 r.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, прыснілася мне, што я знаходжуся ў кватэры сяброўкі. Яна перасаджвае вазоны. Ляжыць для гэтага чорная зямля. Перасаджвае і кактусы — адзін велікаваты, а другі — малы. Я прашу, каб дала яна мне адзін кактус, той малы. І сяброўка мне яго аддае.

Ліда

Маецца адбыцца пахаванне дваіх маладых — хлопца і дзяўчыны. Але ёсць магіла толькі хлопца. Знаходзіцца яна пад дрэвам, а не на могільніку. Адну магілу бачу вельмі выразна. Хлопец ляжыць у труне, прыкрытай шклом. Устаўлена гэта труна ўжо ў дол, які быў вымураваны. Я гляджу і бачу гэтага хлопца праз шкло, але відаць толькі яго твар. Твар малады, з далікатнымі чарнявымі вусікамі. Шкада мне яго, — такі малады. Мела быць побач магіла дзяўчыны, але няма. Не ведаю чаму не ўбачыў я гэтай другой магілы.

Мікалай

Ліда! Цябе чакае нешта радаснае, добрае. Кветкі — яны заўсёды прадвяшчаюць нешта добрае. Тым больш, што ты папрасіла ў сяброўкі адзін кактус і яна табе яго дала. А падарункі атрымліваць у сне — лічы, што будзе нейкі прыбытак. Горш, калі дорыш падарункі. Тады — можна чакаць непрыемнасці.

Мікалай! Твой сон даволі складаны, але мяркую, і табе ён не прадвяшчае нічога кепскага. Быць у сне на пахаванні — значыць, якраз наадварот: будзе весела. Што датычыць труны, якую ты бачыў, дык для маладых яна абазначае вяселле і доўгае жыццё, для сямейных — прыбытак, але для старых — хуткую смерць. Маю надзею, што ты яшчэ малады!

АСТРОН

## ВІРАВАНКА З „П"

1. ніжні пярэдні край сукенкі, 2. агароджа са штыкецін, 3. конусападобны галаўны ўбор, 4. распалены попел, 5. прымацаваная да сцяны полка, 6. мучэнне, 7. знак прывітання, павагі, 8. мужчынскае імя, 9. частка агароджы (паміж слупкамі), 10. невялікая шклянка для віна, 11. частка мужчынскага касцюма.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 26 н-ра:

**Гарызантальна:** Афон, бераг, Уганда, гном, тамат, акацыя, рэстаран, манах, кальрабі, Занзібар, ураса, Вульгата, салома, асетр, дыня, сірата, жабры, нуль.

**Вертыкальна:** серада, кашара, фанетыка, нумар, баран, адрыў, тэхнікум, Калькута, муза, Ніна, вада, сіла, арыгінал, распад, Сатурн, Расін, воцат, ладан.

Кніжную ўзнагароду высылаем Лукашу Пацэвічу з Беластока.

Кухня

## Пра цвятную капусту

Усю гародніну мой муж дзеліць на дзве катэгорыі: адна — гэта тая, якой ён у дзяцінстве наеўся, а другая — тая, якой у іх калісьці не садзілі. У выніку найахвотней не еў бы ніякай. Адно мяса і рыбу!

А пасля лекар раіць: мясное абмежаваць, націскаць на гародніну: калорый — мала, вітамінаў — шмат. Вылечыць усе хваробы. Ну, месяц-два пра гэта памятае, без ніякага згаджаецца есці стравы з гародніны, больш таго, нават сам падказвае, што трэба без мяса. Хутка аднак забываецца — і ўсё вяртаецца на сваё месца. Але адну раслінную страву можа ён есці заўсёды. Гэта цвятная капуста.

Ну, як я яе раблю? Вядома ж, што можна яе рабіць на сотні спосабаў. Я раблю яе ні па-польску, ні па-французску, а раблю чыста па-беларуску. Вядома ж, што ў польскай кухні цэлую галоўку цвятной капусты адварваюць у вадзе з соллю і цукрам, а тады, выняўшы з вады, паліваюць яе цертай булкай, падсмажанай на масле. Французы звараную капусту паліваюць бешамелевым соусам, падрыхтаваным з масла і мукі.

А на Беларусі цвятную капусту рэжуць спачатку на кавалачкі, якія выглядаюць быццам букецік кветачак. Кідаюць іх у кіпячую ваду (крыху солі, крыху цукру) і абварваюць даслоўна некалькі хвілін, каб капуста не развалілася, а толькі крыху змякчэла. Капусту адцэджваюць, мачаюць у цертую булку і — на патэльню. Ужываюць алей. Я, пачаўшы падсмажваць на алеі, дадаю пасля крыху масла. Варта дасаліць крыху капусту ўжо на патэльні.

Уся бяда ў маёй хаце, што чыста „па-беларуску" люблю толькі я. Мужыку падавай развараную, такую, што як паложыш пасля на патэльню, дык можна яе есці, быццам нейкую кашу.

Каторагась дня кажу паціху ўнучцы: „Дзеду зробім кашу, а мне і табе зробім цвёрдзенькую, па-беларуску, праўда?!"

А яна вінавата глянула мне ў вочы, ды і кажа: „Праўду сказаўшы, бабуля, дык і мне „каша" лепш смакуе!"

Вось вазьмі ты і разбярыся, што каму добрае.

А.Ч.

## Гутаркі ў дарозе

— Во, пабач, якія "рускія" п'яныя! — паказала пальцам светлавалосая жанчына.

— А што зробіш, усім далі волю. Едзь куды хочаш, гандлюй чым хочаш, рабі што хочаш!.. — махнула рукою яе чарнявая суседка ў вагоне.

— А ведаеце, кабеты, — азваўся старэйшы мужчына, — "рускія" нядаўна пабілі жыхара вёскі Б. Ехаў ён на працу. Тыя сядзелі ў іншым вагоне. Падышлі да дзядзькі за папяросамі. Даў аднаму, другому, а пасля сказаў, што не мае абавязку частаваць усіх. Тады тыя пачалі шукаць у яго грошай, а знайшлі іх няшмат, то і пабілі, так, што ў бальніцу трапіў. Цяпер іх будуць, пэўна, у нас судзіць, бо арыштавалі.

— Што з таго, што засудзяць? Чалавеку гэта здароўя не верне, — скрывілася чарнявая.

— Гэта былі, пэўна, з нейкай мафіі. Дарэчы, страшна цяпер кожнаму. Едзеш на працу, і не ведаеш, ці вернешся дадому, — адвярнула галаву ад акна маладая дзяўчына.

— Праўда, — пацвердзіла светлая. — Ведаеце, што ў нас было ў час прыхадскога свята? Прыехалі да бацькоў дзеці з горада, пабылі тыдзень. Вярнуліся дадому — а там нічога няма! Мэблю, тэлевізар, дываны — усё забралі!

— Гэта суседзі вінаваты, маглі паліцыю вызваць. Не глядзяць, што побач дзеецца? — абурыўся ліцэіст.

— Калі вопытныя зладзеі, то так зробяць, што ніхто не заўважыць! — зазначыў паліцыянт, які вяртаўся са службы.

— А я лічу, што замнога волі далі розным тыпам і замала іх караюць! — рашыў мужчына.

Запісала
Аўрора

## ПАРНАС

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАХАХ

## СОНЦА

Сонца пячэ,
Дыхаць цяжэй.
Шукаем ахалоды
Над жыватворнымі водамі.
Найлепш у цяньку
Ляжаць як пяньку.
Як смагу згасіць?
Чыстую ваду трэба піць!
Бо розныя „кока-колы"
Нясуць ад спякоты няволю.
Панкі могуць пад дрэвам ляжаць
І там спякоту адганяць,
Або над возерам, рэчкай
І частавацца парэчкай.
Селянін вельмі рэдка
Ляжыць у цяньку з кабеткай,
Не мае ён часу
Напіцца нават квасу.
А гэты здаровы напітак!
Цяпер ён амаль пяражытак.
Трэба прывыкаць да спякотаў
Як жанчыне да родаў.

**Мікалай Панфілюк**

## Агародніна з Польшчы — у Мінск

Зараз суполка „Ігокс" з Мінска (Рэспубліка Беларусь) купляе бульбу, моркву, капусту ды буракі ад сялян з Сідранскай і Кузніцкай гмін. Плануе яна арганізаваць сабе склады-магазіны ў Сідры, наладзіць кантрактацыю гародніны, а таксама весці ўласнае яе вырошчванне на сама менш 100 гектарах.

Варта дадаць, што „Ігокс" імпартуе з Польшчы таксама 5 тысяч тон яблыкаў у год. Купляе і іншыя фрукты. Іх пастаяннымі пакупнікалі з'яўляюцца жыхары Мінска.

(яц)

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 448. Броніслаў Даніловіч (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 449. Кляра Кумэйша (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 450. д-р Марыя Плескач (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 451. д-р Міхась Жылік (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 452. д-р Язэп Сажыч (ЗША) | — 100 дол. ЗША |
| 4 453. Мікола Прускі (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 454. Людміла Бакуновіч (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 455. Каця Грынкевіч (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 456. Васіль Плескач (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 457. Нікадэм Жызьнеўскі (ЗША) | — 30 дол. ЗША |
| 4 458. Мікола Кучура (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 459. Янка Наваградзкі (ЗША) | — 5 дол. ЗША |
| 4 460. Н. Мароз (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 461. Валя Мазуро (ЗША) | — 5 дол. ЗША |
| 4 462. Ірэна Пануцэвіч (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 463. Людвіка Беленіс (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 464. Міхась Махнач (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 465. Ванда Махнач (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 466. А. Чарнэцкая (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 467. В. Багдан (ЗША) | — 5 дол. ЗША |
| 4 468. д-р Вітаўт і Вера Рамукі (ЗША) | — 100 дол. ЗША |
| 4 469. Гэндрык Сянкевіч (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 470. д-р Анатоль Санковіч (ЗША) | — 50 дол. ЗША |

Дзякуем.

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.**

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляріі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 7,00 zł (70 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 15,40 złotych (154 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Не збярэ махоркі Жорка

Стаіць Жорка
На пагорку.
Хоча Жорка
З неба зорку.
Садзіў Жорка
Хрэн з махоркай.
Мышы ў норку
Плёны Жоркі,
Калі Жорка
Да аўторка
Хрэн з махоркай
Не
Сажне!

Не сажне
Напэўна Жорка
Хрэн з махоркай
Ні жняяркай, ні касой
(У яго няма такой),
Ні камбайнам, ні сярпом,
Ні кавальскім малатком,
Ні рыдлёўкай, ні віламі,
Ні відэльцам, ні граблямі...
Не збярэ таго й рукамі,
А зіма ж не за гарамі.
Левыя дзве ручкі ў Жоркі
Так да хрэну, як махоркі!

**Міра Лукша**

# НІЎКА

Мал. П. Козіча

## СМЕХ У САНАТОРЫІ
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

З падарожнага дзённіка адной турысткі:

Першы дзень — прадставілі мяне капітану парахода.

Другі дзень — капітан вельмі для мне ветлівы.

Трэці дзень — капітан запрасіў мяне на шпацыр па палубе.

Чацвёрты дзень — капітан запрасіў мяне на вячэру ў сваю каюту.

Пяты дзень — капітан сказаў, што затопіць параход, калі буду яму супрацiўляцца.

Шосты дзень — уратавала жыццё шасцістам пасажырам!

* * *

— Коля, ты жэнішся з гэтай Веркай?! Яе ж увесь горад меў...

— Што гэта за горад?.. Дваццаць тысяч жыхароў...

* * *

— Цешуся, малады чалавек, што хочаш узяць за жонку маю дачку. Спярша хачу аднак табе сказаць, што на мінулым тыдні я абанкруціўся і страціў усю сваю маёмасць.

— Калі так, дык я адыходжу. Быў бы я бяздушны, калі б у такой сітуацыі забраў вам яшчэ і дачку.

* * *

Сямейная спрэчка. Знерваваная жонка крычыць на мужа:

— Я хіба здурэю! Ці ты пастаянна мусіш мяне папраўляць? Гэта цягнецца ўжо 19 гадоў!..

— Васемнаццаць, каханая, васемнаццаць.

* * *

Ідзе дзяўчына лесам. Заступае ёй дарогу незнаёмы мужчына:

— Не баіцеся самотна хадзіць па лесе?

— А чаго баяцца? У духі не веру, грошай пры сабе не маю, а гэту работу то я вельмі люблю, таму і іду.

# АСФАЛЬТ

На выгане ля Янова
Стала быдлаваць карова
Так да быка захацела,
Што травы ўвесь дзень не ела.
І ўзялі тую кароўку
Увязалі на вяроўку
І так павялі да быка,
А ён радасна замыкаў,
Паглядзеў навокал грозна,
Узяў нюху цэлы ноздры,
Потым на нагі дзве стаў
І з натугай застагнаў.
Потым назад у Янова
Вялі ад быка карову
Па выбоінах, калюжах...
І старaліся ўсе дужа.
І карове цяжка стала,
Што аж громка замычала,
Стала пасярод дарогі,
Падняла і хвост, і рогі,
Палёгку сабе зрабіла
І дарогу ўдабрыла.
Тое месца зіхаціць,
Быццам люстра там ляжыць.
А ў той час ва ўправу гміны
Прыехаў збіраць навіны,
І цікавінкі, і весткі
Спадар Янка Выдавецкі:
Пісьменнік і журналіст,
І паэт, і актывіст,
Проста — літарат-камбайн,
Толькі весткі падавай.
За сталом найбольшым сеў
І акуляры надзеў,
Усе да яго ідуць —
Навіны з гміны нясуць.
А ён за вялікім сталом
Махае нястомна пяром.
Пісьменнік ён рахунковы:
Лічыць куры і каровы,
І вароны, што на плоце,
І ўсе жабы, што ў балоце,
І ў бусліных гнёздах яйкі,
Даўжыню вушэй у зайкаў,
Колькі цыцак у каровы,
Колькі ў кухні ног сталовых,
Калі снедаць ці вячэраць
Запісвае на паперу.
Ужо поўдзень наступае,
Янка пісаць не спыняе.
А пісары і рэферэнты
Носяць яму дакументы,
Квітанцыі і рахункі,
Багамазы і рысункі.
Не маюць часу прысесці
І другі сняданак з'есці.
А мужыкоў, што чакаюць,
Ветліва перапрашаюць
І ўсе пільныя турботы
Просяць адлажыць на потым,
Бо ў іх сёння прыярытэт —
Сам пісьменнік і паэт,
Пісьменнік і журналіст —
Рахунковы актывіст.
І ўсе гэтыя пецэнты
Спачуваюць рэферэнтам:
У калідоры ціха сталі,
За мітуснёй наглядалі.
Раптам бачаць уваконцы —
Нешта зіхаціць на сонцы:
На дарозе штось блішчыць...
— Пэўна асфальт там ляжыць! —
Крыкнуў нехта гучным басам.
Усе прыціхлі, а тым часам
Пісьменнік ні на хвіліну
Не спыніў пісаць навінаў;
Піша аж пяро трашчыць
Што асфальт ужо ляжыць
Ад Нараўкі да Янова.
А гэта наша карова
Таго бляску там наклала
Потым хвастом памахала,
Адагнала мух і бомкаў
І пайшла сабе на лонку.
А пісьменнік рахунковы
Мае сюжэт ужо новы
Піша ў „Каляндар" і ў „Ніву",
Піша пільна і рупліва,
Што ад Нараўкі ў Янова
Асфальтоўка ўжо гатова.
Так кладзе асфальт пяром,
Што аж пыл валіць стаўбом,
Як па асфальце ўпярод
Рвецца нейкі самаход.
А калі зноў дождж і слота
На асфальце гразь, балота.
Мо спытаецца, як прапаў
Асфальт, што на сонцы ззяў.
Ходзяць па дарозе слухі
Што так мухі-залатухі
Асфальт той павыбіралі,
Як дарогу будавалі
Якой золата вазілі:
Янку пяро залацілі.
Бо прынята ва ўсім свеце,
Пра што знаюць нават дзеці,
Што найлепшых паважаюць
І золатам адзначаюць.
Тыя мухі каля хаты,
Дзе жыў пан вельмі вусаты,
Надта ж пільна працавалі
І спаць яму не давалі.
Ён, каб выспацца даволі,
Паехаў да Новай Волі,
А з Новай Волі ў Ялоўку —
Купіў сабе мухалоўку.
Бард на мухі не зважае,
Асфальтоўку праслаўляе.
Перасеў ён у зацішак —
Панараму гміны піша
І на 58-й старонцы
Блішчыць золатам на сонцы
Асфальт, што паклаў у Янова
Янка следам за каровай.

**Адам Маньяк**

# СЕНТЭНЦЫІ

Пішу, значыць, думаю.

* * *

Слова не акрэсліш словам,
хіба — маўчаннем.

* * *

У салодкай паліўцы слоў
і горкую праўду праглынеш.

* * *

Дзе канчаецца лесвіца,
пакажуць ногі.

**Барыс Руско**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Усё жыццё бацькі вучылі мяне, што трэба быць чалавекам справядлівым, скромным і жыць па-божаму. Так я і выйшла замуж: неспакушанай дзяўчынай, якая сваё дзявоцтва данесла да „законнага" мужа.

Нярaз мне было з гэтым сваім „дзявоцтвам" нават цяжка. Мае сяброўкі ў гэтых справах не мелі ніякіх дылем. Свет з яго сучаснымі праявамі не быў для іх таямніцай. На прыватках, вечарынках аддаваліся хлопцам без праблем. А як жа часта былі гэта зусім выпадковыя хлопцы, якіх мае сяброўкі ўбачылі ў той вечар упершыню.

Я не магла зразумець гэтага. Каб хаця рабілі яны гэта з нейкага пачуцця — а то так папросту, механічна, быццам бы так і трэба было. Быццам бы з'елі кавалак торта ці выпілі каву. Як ні ў чым не бывала, вярталіся з хлопцамі са спальні, дурнавата ўсміхаючыся і спаглядаючы звысока на кагосьці, хто гэтага не рабіў.

Я адчувала сябе тады кепска. Хаця я лічыла, што правільна раблю, бо не іду ў пасцель з хлопцам перад шлюбам, але ў такія моманты адчувала сябе, быццам аплёванай. Часта нават перастaвала сябраваць з такімі дзяўчатамі, шукала новую кампанію.

І вось нарэшце я пазнаёмілася з хлопцам, які быў даволі далікатны ў адносінах да дзяўчат. Мне імпанавала, што ён не цягнуў мяне ў пасцель, што не смяяўся з маіх паводзін, быццам яны не сучасныя, так, як рабілі гэта іншыя хлопцы, ведаючы мае негатыўныя адносіны да перадшлюбных палавых зносін.

Прытуляў мяне, гладзіў па валасах, цалаваў. Мне было з ім добра і спакойна. Я вырашыла, што менавіта гэты хлопец падыходзіць мне і выйшла за яго замуж. Вяселле было гучнае і прыгожае. І я цяпер ужо, па-божаму, пайшла з маім мілым у пасцель.

Як доўга я ўяўляла сабе тое шчасце ў дзень, калі распрануся перад мужчынам і аддамся яму поўнасцю! Меркавала, што буду п'яная ад радасці, якая запалоніць мяне. Нарэшце!

Мілае Сэрцайка! Як было мне спакойна, калі выходзіла я замуж, так страціла я спакой пасля шлюбу.

Тое, што мела быць „шчасцем", аказалася вялікім клопатам, а, можа, нават няшчасцем. Два тыдні пасля шлюбу мой муж рабіў што мог, каб пазбавіць мяне дзявоцтва, але нічога ў яго не выходзіла. Нарэшце ўдалося, але, пасля таго яго змагання са сваёй слабасцю, мне ўжо, праўду кажучы, нічога не хацелася.

Ну, і неяк было. Неяк — значыць, абы-як. Я не адчувала ніякай прыемнасці ў палавых зносінах з мужам. Маё каханне да яго расплылося, быццам бы яго і не было. Я адчувала сябе адзінокай і ашуканай.

А пасля муж паехаў на два гады ў Швецыю. Там працаваў. Я яго не асабліва чакала, але і не здраджвала яму. Памятала, што ў мяне ёсць муж.

Прыехаў з немалымі грашыма. Але не гэта было галоўнае. Навёз адтуль розных „свінстваў" — я маю тут на думцы розныя прылады, дапамагаючыя ў палавых зносінах, а таксама нейкія таблеткі. Усяго гэтага накупляў у „секс-шопах". А чаго там не было! Не буду пералічваць. Але найлепшымі былі прэзерватывы, павялічваючыя яго член, з рознымі нараслямі, барадаўкамі.

Даражэнькая Сэрцайка, я такіх фокусаў у жыцці не бачыла, дык спачатку мяне злавала, што ён хоча гэтым карыстацца! Але праз нейкі час я заўважыла, што мне гэтыя „фокусы" пачалі падабацца. Я з жахам сцвердзіла, што нешта мы робім не па-божаму. Не магла ў гэтым нікому прызнацца.

Муж пачаў мне падабацца так, як у пачатку нашага знаёмства. Я адчувала сябе шчаслівай. І адчуваю сябе так надалей, хаця без гэтых прылад мой муж у пасцелі — не арол. А ўсё з-за тых кволенькіх „габарытаў". Ужо ў нас нарадзілася двое здаровых дзетак. Цяпер і ў Польшчы можна купіць усё патрэбнае, каб было ў ложку добра. Не трэба ездзіць за мяжу. Скажы, Сэрцайка, ці добра мы робім, што надалей карыстаемся „свінствамі"?

**Ліза**

Ліза! Усё добра, калі спрыяе здароўю чалавека — фізічнаму ці псіхічнаму. Калі ёсць неабходнасць карыстацца „дапаможнымі сродкамі", а ў той час і яму, і табе прыемна, дык у чым справа?! Усё ж для людзей. І секс-шопы таксама. Тым больш, што табе яны дапамагалі стварыць моцную сям'ю, якая проста развальвалася на вачах.

**СЭРЦАЙКА**